# КУЛЬТУРА

ШТОТЫДНЁВАЯ ГРАМАДСКА-АСВЕТНІЦКАЯ ГАЗЕТА  № 15 (176),  12 КРАСАВІКА 1995 ГОДА.  КОШТ 200 РУБЛЁЎ






# ПАМЯЦЬ УШАНОЎВАЮЦЬ І ТАК...

У Мінскім Палацы спорту прайшоў VIII традыцыйны Міжнародны конкурс выканаўцаў бальных танцаў "Веснавыя рытмы - 95", прысвечаны памяці выдатнага педагога і арганізатара свята ў сталіцы Яфіма Паланецкага. Наладзілі яго — упраўленне культуры Мінгарвыканкама і культурна-спартыўная фірма "ІНТАР".

У конкурсе прынялі ўдзел больш за 50 танцавальных пар міжнароднага класа і пачаткоўцаў з Беларусі, Латвіі, Малдовы, Польшчы, Расіі, Эстоніі. У журы ўваходзілі, акрамя названых краін, прадстаўнікі Чэхіі і Літвы. Конкурс суправаджаў Дзяржаўны канцэртны аркестр Рэспублікі Беларусь.

У паказальных выступленнях гледачы ўбачылі шматразовага чэмпіёна Украіны, фіналіста чэмпіянату свету і Еўропы — ансамбль бальнага танца "Вікторыя" з Севастопаля.

Пераможцам VIII конкурсу стала танцавальная пара міжнароднага класа з Рэспублікі Беларусь — Раман Ермаковіч і Святлана Халадкоўская, а сярод юнакоў — пара з Малдовы Аляксей Хрыстадуліці — Ганна Кох.

Трэба сказаць, што шматлікія спонсары дапамаглі наладзіць гэты чароўны танцавальны баль: уразіла і густоўнае афармленне самой залы, дзе праходзіў конкурс, і падарункі пераможцам. Словы ўдзячнасці гучалі ў адрас фірмы "Поліфакт", МП "РУСТ", гардырэкцыі "Белбізнесбанка", АКБ "Беларускі народны банк" і АКБ "Пріорбанк", выставачнай кампаніі "Экспасервіс", "Радыё-2", "Дайнасці Юніверсал", АКБ "Садружнасць".

**Наш кар.**
**Фота Генадзя ЖЫНКОВА**

ВЕСНАВЫЯ '95 РЫТМЫ

## У ІМЯ АДРАДЖЭННЯ БЕЛАРУСІ

***"Можна і на чужыне рабіць канкрэтную справу на шляху беларускага адраджэння", — гэтыя словы прагучалі ў Доме літаратара па вул.Герцэна ў Маскве, дзе сабралася на традыцыйны вечар беларуская дыяспара.***

Сцэнарый сустрэчы быў "замешаны" крута: прэзентацыя новых кніг, юбілей вядомага земляка, паказ кінафільма.

100-гадовы юбілей беларускага грамадскага дзеяча Аляксандра Ісакавіча Хацкевіча суайчыннікі адзначылі разам з ягонай сям'ёю. Аляксандр Хацкевіч быў адным з тых, хто ствараў нацыянальную Акадэмію навук. У 1922 быў у складзе паўнамоцнай дэлегацыі БССР, працаваў у ЦВК СССР, а ў 37-м быў закатаваны ў сталінскім ГУЛАГу.

Аляксей Каўко, доктар філалагічных навук, прадставіў дзве новыя кнігі, якія выдала "Бацькаўшчына" (маскоўскае аб'яднанне беларусаў).

Для гэтай сустрэчы спецыяльна прывезлі дакументальны фільм з Мінска. Таццяна Працько вынесла на суд гледачоў сваю стужку "БНФ. Час звеставання".

"Бацькаўшчына" сабрала на чарговую сустрэчу дыяспары людзей самых розных поглядаў, прафесій і ўзростаў.

Але ж яны ўмеюць жыць у міры і трымацца адзін аднаго.

**Наш кар.**

## СВЯТА НАВУКІ Ў ШЧУЧЫНЕ

***У Шчучыне прайшла навукова-практычная краязнаўчая канферэнцыя "Знакамітыя людзі, помнікі гісторыі і культуры, гістарычныя падзеі і мясціны Шчучыншчыны XVII — XX стагоддзяў".***

Арганізатары канферэнцыі — Інстытут гісторыі АН Беларусі, кафедра гісторыі Беларусі Гродзенскага дзяржаўнага універсітэта імя Я.Купалы, Гродзенскі абласны і Шчучынскі раённы саветы Таварыства аховы помнікаў гісторыі і культуры, Гродзенскае абласное аддзяленне Фонду культуры, Шчучынскі раённы Савет і райвыканкам.

Шчучыншчына — радзіма дзеяча міжнароднага рэвалюцыйнага руху В.Урублеўскага, паэтэсы А.Пашкевіч (Цёткі), Вацлава Іваноўскага, мастака К.Альхімовіча, сусветна вядомага вучонага І.Дамейкі, а таксама вучоных М.Доўгеля, К.Нарбута, Ст.Юндзіла, А.Доўгерта. На Шчучыншчыне хрысцілі польскую пісьменніцу Э.Ажэшка, тут пахаваны яе родныя і блізкія — бацька, дзядзька, сястра.

Сярод дакладчыкаў канферэнцыі былі доктар гістарычных навук Інстытута гісторыі АН Беларусі Л.Побаль і настаўніца мясцовай сярэдняй школы № 11., прафесар Гродзенскага універсітэта І.Крэнь і дырэктар Дудкоўскай школы, паэт Р.Бялячыц, кандыдат медыцынскіх навук А.Майсёнак і студэнт-завочнік С.Амелька, старшыня райвыканкама В.Казяк і аспірантка Гродзенскага універсітэта І.Папко.

У канферэнцыі прынялі ўдзел этнографы, гісторыкі, мастацтвазнаўцы, краязнаўцы, знакамітыя вучоныя, аспіранты, студэнты, вучні старэйшых класаў школ.

## "АРШЫЦА" ЗДЗІЎЛЯЕ МАГІЛЁЎЦАЎ"

Упершыню адкрылася выстава твораў абстрактна-авангардысцкага накірунку ў Магілёўскім музеі дзекабрыстаў. Члены творчага аб'яднання мастакоў "Аршыца" прадставілі на суд гледачоў каля пяцідзесяці сваіх прац — жывапіс, графіку і габелен. У гэтае аб'яднанне ўваходзяць сямёра аршанскіх мастакоў, якія спрабуюць свае сілы ў новым накірунку мастацтва. Яны ўжо арганізавалі выставы ў Оршы, у Віцебску. І цяпер рызыкнулі паказаць у Магілёве.

Па-рознаму ўспрымалі гледачы на адкрыцці гэта наватарства мастакоў. Адны з захапленнем, іншыя — збянтэжана. Што ж, можа, усе мы, выхаваныя на рэалізме, не дараслі да глыбокага разумення задумкаў мастакоў, якія апераджаюць час.

**Мікалай НАЗАРЭВІЧ, БЕЛІНФАРМ**

Магілёў

## І ВОСЬ, НАРЭШЦЕ...



Амаль пяць гадоў не маглі ўбачыць цалкам экспазіцыю Брэсцкага абласнога краязнаўчага музея ягоныя наведнікі. Час ад часу праводзіліся толькі невялікія выставы. Гэта адбывалася таму, што ішоў рамонт будынка, куды ў 1990 годзе пераехаў музей. Ён размесціўся ў адным са старажытных асабнякоў Брэста, які быў пабудаваны ў канцы мінулага стагоддзя і належаў купцу Фогелю. У тыя часы ў ім месціліся тэатр, рэстарацыя, гатэль. Тут бывалі Мамант Дальскі, вядомая актрыса Вера Камісаржэўская.

І вось, нарэшце, рэстаўрацыйныя работы скончаны. Вялікія, прасторныя, светлыя залы пачалі запаўняцца экспанатамі, якіх у музеі больш за 150 тысяч. Супрацоўнікі спадзяюцца, што хутка наведнікі змогуць з імі азнаёміцца. Першую экспазіцыю тут рыхтуюць да 50-годдзя Перамогі. Наступныя распавядуць пра мінулае і сучаснае Брэстчыны. Адну залу плануецца выкарыстоўваць пад тэматычныя выставы, на якіх будуць дэманстравацца экспанаты з фондаў іншых музеяў рэспублікі.

*На здымку: крышталёвую вазу ў срэбнай аправе работы Карла Фабержэ дэманструе старшы навуковы супрацоўнік музея Святлана Сачун. Ваза была вынятая на мытні ў Казловічах падчас спробы вывазу яе за мяжу. Цяпер яна зойме месца ў адной з залаў музея.*

**Фота Рамана КАБЯКА, БЕЛІНФАРМ**

## ЛІТАРАТУРНЫ МУЗЕЙ — 50 ГОД ПЕРАМОГІ

Дзяржаўны Літаратурны музей Янкі Купалы распачаў шэраг мерапрыемстваў да 50-годдзя Вялікай Перамогі. І першае з іх адбылося ў адной з воінскіх часцей Уручча — брыгадзе аператыўнага прызначэння.

На сустрэчу з вайскоўцамі прыехалі навуковыя супрацоўнікі музея і вядомы беларускі пісьменнік, лаўрэат Дзяржаўнай літаратурнай прэміі імя Я.Купалы, заслужаны дзеяч культуры Рэспублікі Беларусь Мікола Аўрамчык.

У глядзельнай зале Дома афіцэраў сабраліся маладыя воіны. На сцэне разгорнута выстава, якую арганізаваў музей: "Янка Купала — прарок Адраджэння". Выстава расказвае пра Янку Купалу, асэнсоўвае яго гістарычную ролю ў развіцці і станаўленні незалежнай дзяржавы Беларусь. Выстаўка выклікала жывую цікавасць вайскоўцаў.

Пра веліч Янкі Купалы як прарока Адраджэння гаварыла на сустрэчы загадчыца навукова-экспазіцыйнага аддзела музея Ф.Ваданосава. Яна падкрэсліла, што творчасць народнага песняра вельмі сучасная і зараз, нагадала яго раней забароненыя вершы, артыкулы, расказала пра лёс п'есы "Тутэйшыя", пра палымяныя слова Купалы ў час Вялікай Айчыннай вайны. М.Чабатарэвіч прадставіла прысутным пісьменніка, лаўрэата Літаратурнай прэміі імя Янкі Купалы Міколу Аўрамчыка. Адзначыла, што сёлета Міколу Якаўлевічу споўнілася 75 гадоў. Чалавек, які прайшоў вайну салдатам, ваяваў на Волхаўскім фронце, зведаў фашысцкі палон, катаржную нявольніцкую працу ў падземных норах рурскіх шахтаў, але застаўся верным роднай Бацькаўшчыне. У адным са сваіх вершаў Мікола Аўрамчык сказаў:

*Каб гэтакага лёсу вы не мелі,*
*Накананаваны мне ў жыцці які,*
*Бо вязні —*
*лічаць вязнем падзямелля,*
*франтавіком —*
*завуць франтавікі.*

А яшчэ Мікола Аўрамчык з кагорты тых беларускіх літаратараў, які часцінку свайго сэрца аддае ўшанаванню памяці Янкі Купалы. Менавіта ў Купалы Аўрамчык вучыўся перш за ўсё шчырасці, душэўнасці, аддanасці роднай Бацькаўшчыне.

Цёпла, шчыра, па-бацькоўску Мікола Якаўлевіч заклікаў маладых воінаў любіць і шанаваць сваю Беларусь, мову, культуру, традыцыі беларускага народа. Ён прачытаў вершы, прысвечаныя Янку Купалу, вершы ваенных часоў і нізку лірычных твораў.

Вельмі хораша, з цікавасцю ўспрынялі маладыя людзі выступленні. Яны душой і сэрцам дакрануліся да жыватворнай крыніцы сапраўднай беларускай паэзіі.

Напрыканцы сустрэчы выступоўцы былі ўзнагароджаны Граматамі за актыўны ўдзел у шэфскай рабоце з пажаданнямі творчых поспехаў на ніве Адраджэння.

**М.ЧАБАТАРЭВІЧ, вядучы навуковы супрацоўнік Дзяржаўнага Літаратурнага музея Янкі Купалы**

## ІЗРАІЛЬСКІ МАСТАЦТВАЗНАЎЦА Ў ГАСЦЯХ У БЕЛАРУСКІХ СЛУХАЧОЎ

"Еўрапейскі Гуманітарны Універсітэт мае гонар запрасіць Вас для прачытання курса лекцый..." — такое запрашэнне атрымала нядаўна Зіва Амішай-Майзельс — вядучы мастацтвазнаўца Ізраіля. І вось з дзесятага па чатырнаццатае красавіка г.г. у памяшканні Ізраільскага культурна-інфармацыйнага цэнтра (вул. Уральская, 3) упершыню на Беларусі будзе прачытаны курс лекцый "Сучаснае яўрэйскае мастацтва ў кантэксце сусветнай культуры" ў праграме акадэмічнага курсу "Уводзіны ў гісторыю мастацтваў".

Дырэктар Інстытута літаратуры і мастацтва Іерусалімскага універсітэта прафесар Зіва Амішай-Майзельс — адна з вядучых сучасных тэарэтыкаў і гісторыкаў мастацтва, аўтар фундаментальных прац пра Пікасо, Гагена, мастацтва Францыі XIX — XX стст., даследаванняў па абстрактным мастацтве... Цэнтральная тэма яе навуковай творчасці — яўрэйскае мастацтва XIX — XX стст. Упершыню яна раскрыла глыбінныя і сімвалічныя вытокі мастацтва Марка Шагала, Л.Лісіцкага і іншых выдатных мастакоў, звязаных з яўрэйскай традыцыяй. Манаграфіі Зівы Амішай-Майзельс апублікаваны ў ЗША і Ізраілі і перавыдадзены ў многіх краінах свету, яе лекцыйныя курсы карысталіся нязменным поспехам у аўдыторыях універсітэтаў ЗША і Еўропы.

Візіт пані Амішай-Майзельс арганізаваны пры садзейнічанні пасольства Ізраіля ў Мінску.

### АБЗАЦ

У зале Сафійскага сабора, на месцы свайго нараджэння, выступіў з творчай справаздачай за пяць гадоў Наваполацкі камерны хор. На канцэрт калектыў прыехаў з Масквы, дзе другі год запар прадстаўляў Беларусь на Міжнародным фестывалі праваслаўнай музыкі, які праводзіцца пад эгідай Маскоўскага Патрыярхату і асацыяцыі міжнароднага супрацоўніцтва "Кантынент".

**Калектыў Міністэрства культуры і друку Рэспублікі Беларусь выказвае глыбокае спачуванне Генеральнаму дырэктару Рэспубліканскай дырэкцыі эстрадна-цыркавога мастацтва ЛІЦВІНОВІЧУ А.А. з выпадку напаткаўшага яго гора — смерці сына.**

# РЫЗЫКУЮЧЫ ЖЫЦЦЁМ, У... БІБЛІЯТЭКУ

## У Івянцы ёсць свой слынны помнік безгаспадарлівасці

***Больш за васемнаццаць гадоў памяшканне нашай пасялковай дзіцячай бібліятэкі знаходзіцца ў аварыйным стане. З кожным годам будынак прыходзіць у занапад, і, здаецца, да гэтага нікому няма справы. І, крый Божухна, калі здарыцца непапраўнае...***

Судзіце самі. Падлога згніла, дах працякае, столь час ад часу абвальваецца. Падмурку амаль няма — увайшоў у зямлю. У сценах скразныя дзіркі. Гэта, так бы мовіць, кароткае апісанне помніка безгаспадарчасці (нагадаем, між іншым, у гэтым памяшканні знаходзіўся раней дзіцячы садок, які, па вышэй згаданых прычынах, вымушаны былі перавесці ў іншае месца, а на старым засланяць "кніжную скарбніцу").

У спякотнае надвор'е ў прахалодзе пад падлогай збіраюцца жабы (яны пралазяць праз шчыліны ў падмурку) і ладзяць там свае "канцэрты". Бывае, увогуле набіраюцца смеласці і скачуць па пакойчыках бібліятэкі.

Улетку і па восені, калі пройдзе дождж, сялянам — радасць, а нам — гора, бо бібліятэку заўсёды залівае вадой. Бо ў выніку рэканструкцыі шашы Мінск — Івянец — Дзяржынск будынак апынуўся ў своеасаблівай яміне. Вокны практычна напалову ў зямлі, з-за чаго ў іх сістэматычна выбіваюцца шыбы камянямі, што адскокваюць з-пад колаў аўтамашын.

Памяшканне, як бачна, дайшло да такога стану, што мы, бацькі, баімся пускаць нашых дзяцей у бібліятэку. Але ж у такім пасёлку, як Івянец, дзіцячая бібліятэка проста неабходна, бо цяпер кнігі ў крамах вельмі дарагія, і не кожны можа іх прыдбаць. І таму нашыя дзеці вымушаны з рызыкай для жыцця ісці ў бібліятэку.

Усяго "кніжную скарбніцу" наведваюць каля паўтары тысячы хлопчыкаў і дзяўчынак. Але памяшканне яўна па сваёй плошчы не разлічана на такую колькасць чытачоў (у чытальнай зале усяго толькі восем пасадачных месцаў). І дзіву даешся, як гэта бібліятэкары ўмудраюцца яшчэ арганізоўваць нейкія вечарыны, выставы... Дарэчы, у мінулым годзе імі было праведзена сорак рознатэматычных мерапрыемстваў, так бы мовіць, не без рызыкі для сябе і дзяцей.

Кніжны фонд бібліятэкі складае больш за семнаццаць тысяч экзэмпляраў. Але знойку з-за цесняты памяшкання немагчыма ўсе іх размясціць на стэлажах і паліцах. А таму бібліятэкары вымушаны раскладваць кнігі проста на падлозе, дзе яны з-за вільгаці псуюцца і гнілою. Адным словам, іх ніхто ўжо не зможа прачытаць. Працуючы ў такіх умовах, нельга весці нават і гаворкі пра пашырэнне і назапашванне кніжных фондаў, пастаяннае праўдзенне выстаў...

У аддзеле культуры Валожынскага райвыканкама не раз спрабавалі навесці парадак, але, аказваецца, і яны не ўсемагутны. Праўда, некалі абяцалі перавесці бібліятэку ў будынак Івянецкага сельсавета, пры ўмове, калі апошні, адлаведна, зойме месца ў будынку гарадскога раёнкага савета. Толькі ж усё гэта адны абяцанкі...

А гісторыя, нагадаем, цягнецца амаль два дзесяцігоддзі. За гэты час многія дзеці ўжо паспелі выйсці са школьнага ўзросту. Але падрастаюць іншыя, і якраз пра іх сёння нам і трэба падумаць.

**Бацькі дзяцей г.п.Івянец: А.КОЙРА, Н.КУЖО, Т.ПЕТРАШКЕВІЧ, Т.ЦЫНКЕВІЧ, усяго пятнаццаць подпісаў.**

СІТУАЦЫЯ

***Па запрашэнні студэнтаў-славяністаў Брнянскага універсітэта правесці лекцыю пра беларускую культуру наш карэспандэнт, таксама студэнт-філолаг Сяржук Мінскевіч пабываў у сталіцы Маравіі — г. Брно.***




### ПАЧАТАК

Паездка за мяжу, як павялося ў нас, заўжды пачынаецца з АВІДа, нягледзячы — ці ёсць замежны пашпарт ці яго няма.

У мяне асабіста ён быў, нават выдадзены МЗС Рэспублікі Беларусь у 1993 г. і па іх надпісу сапраўдны да 1998 г. Аднак адсутнасць нова-прыдуманай пячаткі, якая называецца "Выезд ва ўсе краіны свету дазволены", перакрэсліла не толькі сапраўднасць майго пашпарта, але і тых грошай, якія я плаціў у 1993 г. за гэты ж пашпарт. Цяпер трэба было зноў плаціць, і самае прыкрае — зноў запаўняць анкеты і чакаць месяц іх апрацоўкі.

Пяць гадзін я адстаяў у чарзе для падачы пашпарта на пячатку, пасля столькі ж праз месяц, каб атрымаць і заплаціць дзве мінімальныя зарплаты. Але ні адтаптаныя ў авідаўскім "прадбанніку" ногі, ні страчаны час не маглі сапсаваць шчаслівага настрою. Мае беды нельга параўнаць з тымі жахамі, што расказвалі ў чарзе: людзей без пячаткі, якія працавалі у Нямеччыне і прыехалі пагасціць на Радзіму толькі на Каляды, на мяжы літаральна выцягвалі з цягнікоў, не зважаючы на купленыя чыгуначныя квіткі, на тое, што людзям няма дзе начаваць, на няўлічаныя прагулы на працы ў прэстыжных фірмах Заходняй Еўропы....

І ўсё ж цяпер я мог патэлефанаваць:

— Еду!

— А чаму гэтак позна? — пытаюцца.

Цяжка было растлумачыць пра нашыя пячаткі, хаця мяне паспрабавалі зразумець і сур'ёзна параілі хутчэй выязджаць, пакуль, маўляў, у нашай краіне не прыдумалі новую пячатку кшталту: "Выезд дазволены ў любы час сутак". Барани Божа, бо тады ўвогуле не выеду!..

### АЙЧЫНА

Трое чэхаў-камерсантаў за 50 DM згадзіліся падкінуць мяне на сваёй машыне ў Чэшскую Рэспубліку. І вось у адзін сонечны дзень прыгажун "Сеат-Таледа" паімчаў мяне ў невядомую краіну. Хаця, як кажуць: ідзі далёка-далёка, пакуль міліцыя не спыніць. Дык жа спыніла. На праспекце Машэрава. Чырвонатвары міліцыянт, заікаючыся ад вострага прадчування куша, мармытаў:

— Ч-чуць н-не ўзляцелі... Ч-чуць н-не ўляцелі...

Аднак я добра памятаю, што наш "Сеат" мірна цягнуўся за "Масквічом". Можа, "Масквіч" не "ўзбуджаў апетыту" сваім нясмачным выглядам, таму яго і прапусцілі?

Турызм прыдуманы для таго, каб болей пазнаць сваю ўласную краіну — гэта ісціна пачала пацвярджвацца для мяне з першых хвілін майго падарожжа. Я са здзіўленнем заўважыў на шашы Мінск-Вільня пры выездзе з горада шлагбаум і трох аўтаматчыкаў, з расчахлёнымі ствaламі АКМаў. Уразіла пустыннасць і бугрыстасць калісьці даволі еўрапеізаванай і загружанай трасы. А тыя машыны, якія абганялі, відаць, усе былі міліцэйскімі, бо яны самі спыняліся і спынялі нас за перавышэнне хуткасці. Пасля другога прыпынення прыгажун "Сеат-Таледа" на пустой шашы пацялёпаўся з хуткасцю 80 км на гадзіну, каб не выклікаць нездаровы ажыятаж.

Таксама мяне, і чэшскіх камерсантаў, здзівіла кемлівасць дзесяцігадовых гарадзенскіх хлопчыкаў. Рэч у тым, што каля павароту на мытню ёсць запраўка, але дызельным палівам там не запраўляюць. Хлопчыкі, лепей чым табліцу множання, ведаюць усе дызельныя аўтамабілі, яшчэ здалёк пазнаюць іх і за 10 тысяч беларускіх рублёў паказваюць бліжэйшую запраўку з неабходным палівам. Іх сервіс адладжаны, як кварцавы гадзіннік, і бізнес квітнее, бо не паспелі заправіцца, як да калонкі пад'ехала "Авія" з літоўскім нумарам, пасля "Мерседэс" з нямецкім, дарогу якім паказвалі хлопчыкі.

На мытні ўсё як належыць: чарга на суткі, вузкая дарога з забруджанымі збочынамі, калючы дрот, аўтаматчыкі-памежнікі, аўчаркі і заўсёды сонныя мытнікі, адны з беларускім гербам на кукардзе, без беларускай мовы пры звароце і без яе ж — на дэкларацыі, другія — з белым арлом і польскім акцэнтам, з непрыхаваным гонарам за сваю дзяржаву.

І нашыя і польскія мытнікі выказалі давер чэхам, праўда, калі яны даведваліся, што ў машыне ёсць адзін беларус, вочы іх ажыўляліся, але, мабыць, каб не кампраметаваць сябе перад годнымі чэхамі, не тармашылі мяне, толькі коратка пыталіся "Водка есть?"

### ПОЛЬШЧА

Дарогі, домікі, газоны — адразу адчуваецца замежжа. Я быў у Польшчы тры гады таму, і цяпер бачылася, што Польшча "адбудавалася". Чыстыя атынкаваныя будынкі ў Беластоку і ў Варшаве, першыя паверхі асветлены і ноччу — крамы. І не такія "аляпаватыя", як у нас, або як былі ў іх раней, а ўжо акуратныя, з густоўнай рэкламай.

"Сеат-Таледа" ляцеў па пустынных праспектах гарадоў, амаль не збаўляючы хуткасць, набраную на шашы, і ніхто нас не спыняў, хаця на вочы трапляліся польскія паліцыянты. А мо ноччу паліцыянты дабрэйшыя?

Бліжэй да чэшскай мяжы архітэктура робіцца больш старажытнай. Больш трапляюцца гатычныя і барочныя храмы. Над кожным гарадком узвышаецца ратуша.

Пачыналася нядзельная раніца, людзі, апранутыя ў строгую вопратку, як кажуць, пры гальштуку, але, і гэта мне падавалася дзіўным, на роварах накіроўваліся да касцёлаў.

На Польска-Чэшскай мяжы, не было бачна ні чаргі, ні калючага дроту, ні аўтаматчыкаў, дый калісьці распаханая нейтральная паласа, здаецца, зарастала травой.

Пасля нядоўгай праверкі дакументаў, большасць часу, безумоўна, пайшло на мяне, мы перасеклі нябачную рысу, якая падзяляе былыя сацыялістычныя дзяржавы...

*(Працяг будзе)*

**Сяржук МІНСКЕВІЧ**

Мінск — Гродна —
Кузніца — Шумпэрк

## СКАНДАЛ У СВЯТЫМ МЕСЦЫ

Тэма духоўнасці на старонках нашай прэсы і ў эфіры ўжо амаль набіла аскоміну з-за павярхоўнага і няшчырага выкарыстання. Таму некаторыя сцвярджаюць, што патрэба яе адасаблення незваротна адышла ў мінулае. Сапраўды, час змяніўся, і за прыналежнасць да той ці іншай канфесіі ўжо не садзяць у турму і не звальняюць з працы, як гэта было не так даўно. Аднак перад рэлігійнымі фармацыямі ўзніклі новыя праблемы. І адна з найбольш істотных цяпер — стасункі Царквы і дзяржавы. Так, заганная практыка ідэалагічнага ціску ўлады на Царкву цяпер амаль не практыкуецца. Але суадносіны ўлады з рэлігійнымі канфесіямі дагэтуль далёкія ад ідэалу.

Праблемная сітуацыя склалася вакол касцёла св. Тройцы, што на Залатой Горцы, яшчэ некалькі год таму, калі вернікі палічылі неабходным дабіцца вяртання будынка храма парафіі. Тады было праведзена шматдзённае пікетаванне Дома ўрада. Аніякага плёну гэтая акцыя не дала — да просьбаў і патрабаванняў вернікаў не надта прыслухоўваліся людзі з "шэрай будыніны". Легальная барацьба не прывяла да нейкіх вынікаў, і тады было прынятае вельмі рэзкае, але, бадай, адчайнае рашэнне — захапіць касцёл. Аднак праблема не была вырашаная і тады: дамова, падпісаная ўрэшце паміж парафіяй і Дзяржфілармоніяй, не магла задаволіць вернікаў.

Таму тое, што адбылося ў касцёле цяпер, — не выпадковасць, а лагічны працяг папярэдніх падзей.

12 сакавіка была нядзеля — дзень Божы. Як звычайна ў гэты дзень, прыблізна а восьмай гадзіне раніцы вернікі і іхні пробашч а. Міхал Сапель прыйшлі ў касцёл на імшу. Вартаўнік, які адчыніў ім дзверы, быў, прабачце, у спаднім і выглядаў зусім не так, як павінны выглядаць людзі ў Доме Божым. У твар увайшоўшым ударыў пах тытуню. Вядома, вернікі былі абураныя гэтым, але вялікага тлуму рабіць не сталі, бо да падобных паводзінаў супрацоўнікаў філармоніі, дый і музыкантаў, былі ўжо амаль прызвычаеныя. Пустыя пляшкі з-пад гарэлкі і недапалкі знаходзілі ў касцёле досыць часта. Але калі кс. Міхал пачаў спавядаць, а міністранты рыхтаваліся да імшы, з пакоя вартаўніка пачуўся жаночы лямант. Тут ужо абурэнню вернікаў, якія выправіліся ў храм на Службу Божую, а патрапілі на месца правядзення п'яных оргій, не было межаў. Выклікалі міліцыю. Віна вартаўніка была відавочная, таму адразу склалі пратакол. Аднак паводле нашых законаў такі выпадак кваліфікуецца толькі як дробнае хуліганства. Грубая абраза рэлігійных пачуццяў вернікаў не была ўлічаная.

Парафіяне вырашылі не пакідаць касцёл. Стыхійна стварылася ініцыятыўная група, якая занялася арганізацыяй акцыі. Людзі збіраліся дзяжурыць у храме круглыя суткі, начаваць там. На адным з наступных набажэнстваў была зачытаная заява касцельнага камітэта на чале з У. Папругам. У ёй была абумоўленая мэтазгоднасць дзеянняў вернікаў і высунута патрабаванне — аддаць касцёл на баланс парафіі. У заяве было адзначана, што парафіяне не супраць канцэртаў класічнае музыкі, але яны мусяць адбывацца у касцёле, а не імша — праходзіць у канцэртнае залі. А паколькі філармонія не можа забяспечыць належны парадак у святыні, то аб гэтым мусяць паклапаціцца самі вернікі.

Акцыя доўжылася больш за тыдзень. На працягу ўсяго гэтага часу ў касцёле знаходзіліся людзі. Былі сарваныя канцэрт і іншыя мерапрыемствы філармоніі. Але ўсе разумелі, што доўга такое працягвацца не можа. Таму касцельны камітэт вырашыў дзейнічаць у рамках закону і згадзіўся на прапанову філармоніі падпісаць новую дамову, амаль не адрозную ад папярэдняй, і падаў адначасова з гэтым на філармонію ў суд. Артыкул, які прадугледжвае адказнасць за абразу рэлігійных пачуццяў вернікаў, прысутнічае ў нашай Канстытуцыі, але не надта верыцца, што становішча зменіцца пасля судовага працэсу.

Такім чынам, праблема засталася нявырашаная і пасля гэтых падзей. Полымя было не згашанае раз і назаўжды, а толькі злёгку прыхаванае. А з тлеючага вугалля можа разгарэцца сапраўдны пажар. Зрэшты, час пакажа. Зразумела адно: пераможцаў у поўным сэнсе слова ў гэтым змаганні не будзе.

**Г.С.**

ЛІСТ У РЭДАКЦЫЮ

## ЗАНЕПАКОЕНЫ!

Сённяшнія непаважныя адносіны да Закону аб дзяржаўнай мове ў розных установах Беларусі і асабліва ў сістэме адукацыі ўсё больш турбуюць беларусаў Латвіі. Адкрытыя нападкі на беларускую мову, беспадстаўныя сцвярджэнні, быццам беларуская мова — бедная мова і на ёй нельга выказваць нешта ўзвышанае, што ёсць толькі дзве вялікія мовы — расейская і ангельская, — усё гэта абражае, прыніжае нашу родную беларускую мову і мільёны беларусаў, што жывуць на Радзіме і за яе межамі, у тым ліку ў Латвіі. Асабліва нас устрывожыла звестка аб правядзенні ў Беларусі рэферэндуму, мэта якога — наданне расейскай мове статуса дзяржаўнай і перагляд старажытных дзяржаўных сімвалаў Беларусі.

Беларусы на тэрыторыі сённяшняй Латвіі жывуць з даўніх часоў, тут склалася іх самабытная культура й традыцыі, захавалася беларуская мова. У 20-я гады ў Латвіі існавала больш пяцідзесяці беларускіх школаў, беларускія гімназіі, тэатр, друк, якія ў пазнейшыя часы са зменай палітычнага становішча былі зліквідаваныя. У апошнія гады асветна-культурнае жыццё беларусаў Латвіі пачало адраджацца. На гэта станоўча паўплывала й адраджэнне нацыянальнай незалежнасці самой Беларусі, прыняцце Закону аб дзяржаўнасці беларускай мовы. У 1989 г. была адкрыта Беларуская мастацкая студыя "Вясёлка", пачала працаваць беларуская праграма на Латвійскім радыё, у 1993 годзе адкрыта Рыжская беларуская нядзельная школа, выйшаў першы беларускі часопіс "Сьвітанак" і газета "Прамень", а ў гэтым навучальным годзе быў адкрыты першы клас беларускай школы ў Рызе.

Аднак маючы адбыцца рэферэндум ставіць пад пагрозу ўсё гэта і ўвогуле адраджэнне і развіццё беларускай культуры ў Латвіі, бо сённяшнія дзеянні ў Беларусі адбіваюцца і на адносінах да беларускай дыяспары. Каля ста тысяч беларусаў Латвіі адчуваюць на сабе адсутнасць дзяржаўных пагадненняў паміж Рэспублікай Беларусь і Латвіяй аб пенсіянерах, аб гандлі, аб культурным супрацоўніцтве і аб адукацыі беларусаў Латвіі на роднай мове.

Мы разумеем тых беларусаў, у якіх выхавана найбольшая любоў да расейскай мовы, і цяжка ім прызвычаіцца да беларускай мовы. Але хацелася б, каб і яны зразумелі, што няма ў свеце такога народа, які адмовіўся б ад сваёй мовы. Кожны народ, будуючы сваю дзяржаву, карыстаецца старажытнай мовай гэтай зямлі, а не ўводзіць чужую. Няма моў вялікіх і малых, як моў бедных і багатых. Для кожага народа, нацыі свая мова ёсць і найвялікшая, і найбагацейшая, і найпрыгажэйшая, бо гэта родная мова, як і маці. Няхай беларуская мова ідзе з садкоў, са школаў і вышэйшых навучальных установаў.

Пройдуць гады, і Беларусь гэтага пакалення ўжо загаворыць на роднай мове і не будзе праблемаў з беларускай мовай, і стане тады Беларусь сапраўднай беларускай дзяржавай. Але будзе вялікі сорам усім нам перад іншымі народамі свету, калі па прычыне рэферэндуму народ наш страціць родную мову і адрачэцца ад ужо прынятых у Канстытуцыі гістарычных сімвалаў Беларусі. Таму мы спадзяёмся на вас, нашы суайчыннікі, мы верым, што вы захаваеце незалежнасць Беларусі і нашу родную беларускую мову. Бо няма мовы — няма народа.

**Ад імя агульнага сходу:**

**ад Латвійскага таварыства беларускай культуры "Сьвітанак": старшыня Мікола Ярчак, старшыня рады Сяржук Кузняцоў, ад Таварыства беларускай мовы "Прамень": старшыня Алесь Карповіч, намеснік старшыні Ала Макарэвіч, ад Рыжскай беларускай школы і аб'яднання мастакоў-беларусаў Балтыі "Маю гонар": старшыня Вячка Целеш, ад Таварыства беларускай культуры "Уздым": старшыня Мікола Паўловіч, намеснік старшыні Станіслаў Валодзька, кіраўнік ансамбля "Надзея" Зоя Кальвіш, рэдактар газеты "Прамень" Лявон Шакавец.**

## НЕЗАЛЕЖНАСЦЬ БЕЛАРУСІ: НЕ ТОЛЬКІ НАШ КЛОПАТ

"Утварэнне Беларускай Народнай Рэспублікі і перспектывы незалежнасці краіны" — так гучала тэма адкрытай навуковай дыскусіі, якая адбылася 22 сакавіка ў Інстытуце славянскай філалогіі Люблінскага універсітэта імя Марыі Кюры-Складоўскай. Дыскусія з нагоды свята Дня Волі была арганізаваная Люблінскім аддзяленнем Польскага таварыства беларусазнаўцаў, а ўдзел у ёй бралі польскія і беларускія навукоўцы: філолаг А.Баршчэўскі (Варшава), гісторык Е.Левандоўскі (Люблін), гісторык А.Грыцкевіч (Мінск), археолаг М.Чарняўскі (Мінск), філолаг С.Кавалёў (Мінск).

У цэнтры ўвагі знаходзіліся наступныя пытанні: Як была абвешчана БНР і ці існавала рэальна гэтая дзяржава? Ці мелі беларусы дзяржаўнасць да 25 сакавіка 1918 года? Якім чынам абвяшчэнне БНР паўплывала на ўтварэнне БССР і на станаўленне нацыянальнай самасвядомасці беларусаў? Ці патрэбная была незалежнай Польшчы незалежная Беларусь? Ці незалежная Беларусь сёння, ці будзе яна незалежнаю заўтра? Характар пытанняў вытлумачваўся прысутнасцю на дыскусіі зацікаўленай аўдыторыі: студэнтаў-беларусістаў Люблінскага універсітэта імя Марыі Кюры-Складоўскай і Люблінскага каталіцкага універсітэта.

Ініцыятарам навуковай імпрэзы, прысвечанай угодкам абвяшчэння БНР 25 сакавіка 1918 г., быў вядомы беларускі гісторык, прафесар А.Грыцкевіч; а правесці яе ў форме адкрытай дыскусіі з удзелам прысутнай аўдыторыі прапанаваў старшыня Люблінскага аддзялення Польскага таварыства беларусазнаўцаў доктар філалогіі Міхал Саевіч. Што датычыцца слухачоў, дык як паказалі зададзеныя пытанні, студэнтаў цікавіла не толькі мінуўшчына, але і сучаснасць: сённяшняе палітычнае жыццё Беларусі і перспектывы станаўлення дзяржаўнай незалежнасці краіны, пагроза страты яе дзяржаўнага суверэнітэту і дэнацыялізацыі культуры. Яно і зразумела: ведаючы, што сёння адбываецца на Беларусі, будучыя беларусазнаўцы занепакоеныя перспектывамі абранай прафесіі...

**Н.Р.**

РОК-РАУНД

# РАСЕЙСКІЯ "ГОСЦІКІ" ХЛОПЦАЎ З "КРАМЫ"

*Нягледзячы на ўсе хібы развіцця шоу-бізнеса на Беларусі, пра якія так любяць узгадваць нашыя рок- і іншыя музыканты ,апошнія не мусяць наракаць на свой лёс.Бо сёння, у час камерцыялізацыі таго, што было некалі ідэяй, у нашай краіне засталася ці не самая імпэтная рок-аўдыторыя ў свеце.У гэтым я пераканаўся і нават адчуў гэта на сваім целе (у самым прамым сэнсе), калі спрабаваў пранікнуць на чарговы канцэрт цыкла "Сябры з Расеі ў гасцях у "Крамы" .Фанам было загадзя вядома , што папулярны ў народзе гурт "Ва-банкъ" не прыехаў ,але колькасць тых, хто застаўся на вуліцы і выразна выяўляў сваё незадавальненне гэтым, ці не перавышала колькасць "шчаслівчыкаў", якія здолелі ўсё ж змясціцца ў досыць цеснай залі. І першыя, калі ім надакучыла бяздзейна мерзнуць на вуліцы, з крыкамі і стогнамі рушылі на штурм дзвярэй з надзеяй пагрэцца-такі пад жыццядайную музычку. У выніку, перад Альтэрнатыўным тэатрам ужо каторы раз паўстала пагроза спынення існавання, але чалавечых ахвяраў, дзякаваць Богу, не было.*

*Тым, хто не здолеў патрапіць на канцэрт, але вельмі таго хацеў, і прысвячаю я гэты матэрыял.*

*Выступ гурта "НРМ" (тое, у што пераўтварылася старажытная "Мроя")сведчыў пра жаданне музыкантаў вярнуцца да рок-н-ролу ў больш класічным разуменні гэтага паняцця. Наколькі ім тое ўдалося, мне меркаваць цяжка. Здалося толькі што гурт крыху страціў уласцівую ім раней рэзкасць "саунда". "Мангол шуудан", які мусіў замяняць "Ва-банкъ", цалкам прыехаць не здолеў, і публіка была пачаставаная толькі песенькамі пад шасціструнку, больш натуральнымі дзе-небудзь у маскоўскім пад'ездзе пад "Сталічную" і агуркі. Ну, а "Крама", нягледзячы на тэхнічныя праблемы і непрацягласць выступу, амаль давяла, што рок-н-рол у нас яшчэ не сканаў.*

*Зрэшты, гэта ўсё мае суб'ектыўныя меркаванні. А пра тое, чым насамрэч з'яўляецца серыя канцэртаў "Сябры з Расеі ў гасцях у "Крамы", найлепш мусіць ведаць адзін з галоўных яго арганізатараў — тэкставік "Крамы" Зьміцер Лукашук. І мне засталося толькі распытаць яго наконт гэтага.*

**— " Сябры з Расеі ў гасцях у "Крамы" — добра прадуманая акцыя, у яе арганізацыі закладзеная нейкая канцэпцыя. Таму перш-наперш хацелася б даведацца пра ідэю цыкла.**

— Пасля таго як мы пабывалі ў Маскве, пазнаёміліся з тамтэйшымі музыкантамі, мы зразумелі, якая тут у сэнсе канцэртаў багна. Прыязджаюць сюды расейскія музыкі, якія — або вельмі вядомыя, або такія, як Алёна Апіна ці Філіп Кіркораў. І мы вырашылі паказаць,што ёсць "каманды",якія, можа быць, не так ужо вядомыя беларускаму слухачу, але таксама вельмі добрыя, і дзеля гэтага арганізаваць такі цыкл. Сэнс адбору вельмі просты. У некаторых выпадках нам не вельмі падабаецца музычны стыль таго ці іншага гурта, але нам падабаюцца самі людзі. І другое — музыка, якая ідзе ад душы, рок-н-рол.

**— Значыць, пры адборы найбольшае значэнне надавалася чалавечым якасцям? Вашыя стасункі з расейскімі музыкамі маюць больш " тусовачны" характар, чым музычны?**

— Нельга сказаць, што не музычны. Са шмат якімі камандамі ,што прыехалі да нас, мы дагэтуль выступалі ў Маскве. Гэта "Матросская тишина", "Кросроудз", "Бітмэйкерз", "Аклюзия". Іншая справа, што, прыкладам, з "Мангол шуудан" мы пазнаёміліся пры досыць "піўных" абставінах. Але безумоўна, у першую чаргу гэта чалавечыя адносіны.

**— А чым растлумачыць накладкі? Сёння мусіў выступаць "Ва-банкъ", а на сцэну выйшаў "Мангол шуудан", дый і тое не ў поўным складзе.**

— Усё можна растлумачыць жыццём, жыццёвымі калізіямі. Проста, хлопцы з "Ва-банка" здымаюць цяпер новы кліп. Калі ты маеш грошы, то хочаш за іх атрымаць самае лепшае.І яны "купілі" самага лепшага аператара Масквы, прынамсі, самага папулярнага на сённяшні момант, а ён па кантракце з'язджае працаваць за мяжу, і апошні дзень, калі ён мог здымаць, — менавіта сёння, 27 сакавіка. І таму хлопцы літаральна дзён за пяць патэлефанавалі, вельмі выбачаліся...

**— Пасля наведвання вашых канцэртаў у мяне ўзніла ілюзія нейкай элітарнасці паказаў. Музыка там гучыць збольшага простая і зразумелая, але прысутнічае мінімум публікі.**

— Затое прыходзяць поўныя залі. У людзей ёсць цікаўнасць, і пад дзвярыма стаяць тыя, хто не могуць патрапіць на канцэрт. Гэта лепей, чым граць у залі на дзве з паловай тысячы месцаў пры дваццаці гледачах.

**— Добра, а як ты ставішся да публікі? Далёка не ўсе жадаючыя могуць трапіць на канцэрты...**

— Да публікі я стаўлюся вельмі добра, для яе мы і робім гэтыя імпрэзы.Іншая справа, што яна мне сарвала тэлевізійныя здымкі — заля стаіць на "вушах", і аператары не могуць працаваць. А ў астатнім я да гэтых людзей вельмі добра стаўлюся. У тым выпадку, калі яны паводзяць сябе інтэлігентна. Я, дый і іншыя арганізатары і музыкі, не любяць хамства і жлобства.

**— Неяк ты сказаў, што, на тваю думку, гэты цыкл дае шмат для Беларусі. Што ты меў на ўвазе: уплыў маскоўскай эстэтыкі на наш рок-рух ці штось іншае?**

— Тут вельмі шмат пазітыўных момантаў. Па-першае, беларускія музыкі (наколькі можна заўважыць, мы ў кожны канцэрт устаўляем які-небудзь беларускі гурт апроч "Крамы") атрымліваюць нейкі імпульс для працы. Бо Беларусь — гэта рок-н-рольны лепразорый, і людзі ўжо губляюць надзею, што тут можна штосьці зрабіць, што трэба працаваць. А такія канцэрты даюць ім нейкі імпульс. Яны прыходзяць, граюць пры поўнай зале і працуюць на далей.

Потым публіка атрымлівае магчымасць бачыць новыя гурты і, урэшце, мы паказваем, што на Беларусі нешта ёсць, што беларусы могуць нешта зрабіць, што існуе не толькі канал "Астанкіна" і РТР, добрая музыка ёсць і тут.

**— А якія ў вас планы на бліжэйшы час? Што яшчэ здолеюць пабачыць менчукі ў рамках вашай праграмы?**

— На наступны канцэрт мусіць прыехаць "Лига блюза", калі мы не пацягнем фінансава, будзе ўсё ж "Ва-банкъ", а праз месяц мы зробім прэзентацыю новай праграмы "Крамы", на якой павінны прысутнічаць і лідэр "Кросроудс", і Свірыдаў, і лідэр "Крематория" Армен Грыгаран, дый і іншыя вядомыя музыкі абяцаліся прыехаць.

**— Спіс імёнаў уражвае. Але гэтыя музыканты граюць музыку самых розных стыляў. І ўвогуле, на вашых канцэртах прысутнічаюць самыя розныя музычныя плыні — ад кансерватыўна-эпігонскага майнстрым-блюза да ультраэксперыментальнага авангарда Курохіна.**

— Людзей, з якімі мы хаця б не папілі піва, мы не запрашаем. Адзінае, што крыху спантанна атрымалася — Курохін. Мы з ім пазнаёміліся на здымках у "Кафе Обломове", дзе "Крама" запісвалася пасля яго. Запрасілі ў госці... А з усімі іншымі музыкантамі, прыкладам, з "Мангол шуудан", мы размаўлялі наконт прыезду месяцы за два да канцэрта.

**— Значыць, стрыжань гэтага цыкла — у піве?**

— Ну, без піва шмат якіх праблем проста немагчыма вырашыць, і без піва не спазнаеш так чалавека, як можна спазнаць з півам.

**Гальляш СЬВІРЫН**

# ДОМ ВЕЧНАГА СНУ

*Як вядома, у сталіцы нашае краіны ёсць адзін крэматорый, які досыць спраўна функцыянуе дзесьці на ўскраіне горада. Адметны ён хіба тым, што ў аздабленні будыніны, дзе нішчацца спапяляльным агнём матэрыяльныя рэшткі тых, хто пакінуў гэты свет, фігуруе эмблема Вечнасці. Але 26 сакавіка сумную аднастайнасць працоўнага дня вышэй адзначанай установы замяніла сапраўднае свята. Толькі ў гэты дзень, дый тое, усяго некалькі гадзін у Менску, у самым цэнтры горада працаваў яшчэ адзін крэматорый, маскоўскай, на гэты раз, вытворчасці. Не трэба быць празмерна кемлівым дзеля таго, каб уцяміць, што гэты экспартны агрэгат — не што іншае, як адна з найбольш змрочных каманд расейскага року — "Крематорий".*

*Зрэшты, ніякага спалення душ у той вечар не адбылося. Канцэрт, арганізаваны і фундаваны фірмамі "Высокія тэхналогіі", "DTK Computer" і "Top art DJ", меў вялізарны поспех, нягледзячы на "камерцыйны" кошт квіткоў. Фаны спявалі песні сваіх куміраў яшчэ гучней за іх саміх з дапамогай апарата, які, дарэчы, быў не самай высокай якасці. І ўвогуле, атмасфера панавала святочная.*

*Дзеля таго каб уявіць больш дакладна, чым жыве (і што п'е) "Крематорий" сёння, прапануем фрагмент менскай прэс-канферэнцыі гэтага гурта. На ўсе пытанні журналістаў адказваў лідэр "Крема" Армен Грыгаран, бо, паводле ягоных уласных словаў, астатнія музыкі ўмеюць толькі граць, "разгаварыць" іх вельмі цяжка.*

**— Як Вы можаце ахарактарызаваць тую музыку, якую граеце, і на якія пытанні яна адказвае.**

— Музыка склалася неяк сама сабой. Ніхто не задумваўся дзесяць год таму, якую музыку мы будзем граць у будучыні. Яна атрымалася такой, зыходзячы з, пэўна, нават і сацыяльных варункаў. Паколькі не было магчымасці даваць электрычныя канцэрты, пайшла мода на "кватэрнікі". Адпаведна, гэта прывяло да акустычных інструментаў — гітары, скрыпкі, дудкі. З гэтага хаоса і нарадзілася тое, што вы ведаеце, тое, што ёсць. Мы не намагаемся даваць нейкія ацэнкі. У нас ёсць уласны светапогляд, якога мы прытрымліваемся. Таму спрабуем не адказваць на пытанні, а самім разабрацца, што адбываецца ўнутры нас , што адбываецца ў нашых снах, і як гэта сумясціць у такой зручнай форме, як музыка і тэкст. Літаральна дзён за трыццаць мы запісалі новы альбом. Адмянілі на гэты час канцэрты, хаця гэта быў ужо амаль гатовы тур, і з захапленнем сталі займацца альбомам. Паводле канцэпцыі ён складаецца нібы з 17 сноў, слова"сон" ёсць у кожнай песні. Гэты альбом вылучаецца яшчэ і тым, што раней мы прыдумвалі спачатку канцэпцыю, нават назву альбома, а пасля ўжо расстаўлялі песні так, каб было зразумела. Як у апавяданні: уводзіны — кульмінацыя — эпілог. А тут атрымаліся проста 17 начэй і хаос, які прыходзіць са сноў. Паколькі, на жаль, а можа, і на шчасце, мы дастаткова сур'ёзна прыхвоціліся да тэкілы, тады адбывалася досыць бурнае распіццё гэтага напою, то мы вырашылі назваць альбом "Тэкілавыя сны". У гурце склаліся такія традыцыі , і яны дастаткова сур'ёзныя, паводле якіх кожны альбом суправаджаецца нейкім модным унутры гурта напоем.

**— У вас змрочная назва, вы аддаяце перавагу цёмным танам. Гэта неяк звязана з вашым стылем жыцця?**

— Я думаю, было б смешна, калі б музыканты "Крематория" павыскоквалі сюды, як папугайчыкі. Чорны колер не вылучаецца.

**— Якую музыку Вы слухаеце самі?**

— Майк Навуменка быў для мяне чалавекам, які навучыў пісаць тэксты па-расейску. Ані "Машина времени", ані "Високосное лето" на гэтае не натхнялі. Я шукаў паэтаў, каб перакласці іхнія тэксты на музыку. Але гэтая піцерская хваля была настолькі моцнай, што мы пачалі пісаць расейскамоўныя тэксты. Майк — адзін з найлепшых прадстаўнікоў расейскага року. Шкада, што цяпер яго няма. А што тычыцца музыкі наогул, то 70 працэнтаў з таго, што мы цяпер слухаем — гэта музыка старая, 60-70-тых гадоў. Той самы выбух, які адбыўся ў той час. Цяпер мы збіраем адныя аскепкі, але гэты выбух яшчэ сілкуе энергіяй. Хендрыкс ,"Дорз", "Лед зэпелін","Блэк сэбат" і іншае. Ну, у кожнага з хлопцаў сваё. Андрэй Сараеў, наш бубнач — адзіны, хто дагэтуль адсочвае новую музыку і прыносіць тое, што яму найбольш падабаецца. Але новае, на жаль, не натхняе.

**— Тэмы сваіх песень вы знаходзіце ў жыцці ці ў філасофіі, і калі ў ёй, то ў якой менавіта?**

— Апошнім часам было захапленне трыма вялікімі "Ф" — Фройдам, Фромам і Франклам. Гэта ідэя, народжаная у нетрах канцлагера — усе яны прайшлі праз канцлагер. І высветлілася, што гэтая масавасць канцлагера можа выдаць новую філасофскую ідэю, тое, чаго не было раней.

**— Дай Бог, канешне, нам усім доўгіх год жыцця, аднак мы ўсе смяротныя. Калі Вы памраце, Вы хочаце, каб Вас пахавалі ці спалілі ў крэматорыі?**

— Гэта не справа музыкі ці назвы, гэта справа асабістая, хай хто як хоча, гэтак і знікне. Ёсць, вядома, свае погляды на гэтае пытанне. Пакуль намагаемся не думаць аб гэтым. Мы яшчэ, як я мяркую, занадта маладыя. А потым смерць пакажа.

**Г.С.**

# Ж.В. ПРА БГ, ПРА БУДЫЗМ І ПРА КАХАННЕ



Наколькі мне, прыхільніку і аматару творчасці БГ з дванаццацігадовым стажам, вядома, у лютым лідэр гурта "Акварыум" вярнуўся ў Санкт-Пецярбург з Індыі і Непала. Там ён намагаўся спасцігнуць патаемствы будызму. Дзеля гэтага ён пэўны час правёў у малітвах і экскурсіях па розных старажытных манастырах, размаўляў са шматлікімі гуру, а пад канец вандроўкі набыў падручнік для ігры на экзатычным інструменце — сітары.

На той час, у тых цёплых краінах Барыс Барысавіч не ўжываў мяса і не піў алкагольных напояў.

Хачу падкрэсліць, што вышэй згаданымі напоямі БГ не грэбаваў падчас прэсканферэнцыі, якую, дарэчы, пераносілі два разы. Не, я не пакрыўдзілася, што ён нікога з журналістаў не пачаставаў зранку півам. Магчыма, да новага разумення свету пра будызм дадаліся элементарныя паводзіны элітарнай зоркі року, якія таксама здабыў БГ за доўгае жыццё на радзіме Бессмяротнага квартэта "Бітлз". Між іншым, славутая ліверпульская чацвёрка станоўча паўплывала і ўплывае на творчы status quo БГ.

І, увогуле, перад намі сядзеў стомлены кумір ветэранаў перабудовы і піянераў будоўлі Незалежнай радзімы. Ён ціха, дыпламатычна і без дыскусій адказваў на пытанні маіх калег: "так" або "не". Урэшце, хацелася б сказаць: "Борис, ты не прав". Інакш незразумела, дзеля чаго гэтая прэс-гульня. У сваю чаргу хочацца сказаць — журналісты былі падрыхтаваныя да сустрэчы з заснавальнікамі інтэлектуальнага року. Пытанні былі разнастайнымі, калі хочаце, арыгінальнымі, якія ўсяго толькі патрабавалі ад інтэрв'юера трошкі гумару, трошкі моўна-стылёвых складанасцей у стылі самой творчасці БГ, а не капрызнай легендарнай персоны. Тым больш, што некаторыя з прысутных ведалі пра той самы будызм толькі з вядомага фільма Берталучы. Але ж... Мне чамусьці прыйшло на ўспамін адно адкрыццё-расчараванне з дзяцінства. Маёй любімай забаўцы, плюшаваму медзведзяняці, пральная машына выдрала кавалачак абіўкі з правага боку, пасля чаго я ўбачыла, што ягоная сярэдзіна была набіта... апілкамі. І як бы я ні намагалася прыціскаць забаўку да сябе і прыдумваць яму асабістае жыццё ў маім дзіцячым, усё роўна жывым медзведзяня не зрабілася. Іншымі словамі, я ўцяміла: лепш ніколі не глядзець усярэдзіну — гэта заўсёды дорага каштуе і балюча канчаецца.

Вось менавіта такія ўражанні апанавалі мяне пасля размовы з кумірам. Хаця хачу сказаць, што гурт "Акварыум" і творчасць БГ я не перастала паважаць і любіць.

Прапаную некалькі адказаў Барыса Барысавіча Грабеншчыкова, якія ён даў 3 красавіка 1995 года.

**— Барыс Барысавіч, якое самае традыцыйнае пытанне задаюць Вам замежныя журналісты падчас гастроляў?**

— Ой, яны надакучылі мне з ім. Я чамусьці заўсёды павінен распавядаць пра тыя часы, калі ў нас, у былым СССР, быў забаронены рок.

**— Вам падабаецца мінская публіка?**

— Так, Мінск надта цёплы горад.

**— І гэта нягледзячы на крыкі ў зале "Барыс, ты ўжо памёр!"**

—... Я не чуў.

**— "Тусоўка" сёння набыла канкрэтныя рысы: свой расклад, месца дзеяння. Вы чалавек "тусоўкі"?**

— Не і яшчэ раз не. Мне сумна там бываць. Калі я хачу сустрэцца з сябрамі, мне неабавязкова з імі "тусавацца". Тым больш, што радзімы ў мяне няма. Ёсць месца нараджэння — Санкт-Пецярбург.

**— Ці ўспамінаеце Вы свае студэнцкія гады, праведзеныя ў славутым Ленінградскім універсітэце на матэматычным факультэце?**

— Не і ніколі. Былі і прайшлі.

**— Што на Вас моцна паўплывала, каб так рэзка звярнуцца да Бога?**

— Любоў да ўсяго. Аніводнае вучэнне так не паўплывала, як мая жонка. Толькі праз яе любоў да мяне і праз маю любоў да яе я намагаюся спасцігнуць свет, Бога. Упэўнены, што іншых шляхоў няма.

**Жанна ВАСАНСКАЯ**

***Прапануем вашай увазе новую рубрыку: "Хочаш — не маўчы", дзе мяркуем друкаваць сучасныя шлягеры і песні мінулых гадоў. Мы, параіўшыся ў творчым Пінгвінарыі газеты, вырашылі ўшанаваць памяць аб канцэрце мэтра рокавай культуры і надрукаваць вядомы твор А.Вярцінскага, які набыў славу ў творчасці "Акварыума". А "фанам" БГ прапануем словы бессмяротнага шлягера гурта "Бітлз", які так паважае Барыс Барысавіч.***

### "... Ваши пальцы пахнут ладаном"

*(А.Вертинский)*

*Ваши пальцы пахнут ладаном,*
*И в ресницах спит печаль.*
*Ничего теперь не надобно,*
*Ничего теперь не жаль.*
*И когда весенней вестницей*
*Вы пойдёте в дальний край,*
*Сам Господь по белой лестнице*
*Поведёт Вас прямо в рай.*

*Тихо плачет дьякон седенький,*
*За поклоном бьет поклон,*
*И метет бородкой реденькой*
*Золотую пыль времен.*
*Ваши пальцы пахнут ладаном,*
*И в ресницах спит печаль.*
*Ничего теперь не надобно,*
*Ничего теперь не жаль.*

### Yellow Submarine

*(J.Lennon, P.McCartney)*

*In the town where I was born lived a man who sailed to sea,*
*And he told us of his life in the land of submarines,*
*So we sailed up to the sun till we found the sea of green*
*And we lived beneath the waves in our yellow submarine.*

*We all live in a yellow submarine, yellow submarine, yellow submarine.*
*We all live in a yellow submarine, yellow submarine, yellow submarine.*

*And our friends are all aboard, many more of them live next door;*
*And the band begins to play:*
*We all live in a yellow submarine, yellow submarine, yellow submarine.*
*We all live in a yellow submarine, yellow submarine, yellow submarine.*

*As we live a life at ease, ev'ryone of us has all we need.*
*Sky of blue and sea of green in our yellow submarine.*
*We all live in a yellow submarine, yellow submarine, yellow submarine.*
*We all live in a yellow submarine, yellow submarine, yellow submarine.*
*We all live in a yellow submarine, yellow submarine, yellow submarine.*
*We all live in a yellow submarine, yellow submarine, yellow submarine.*

АВАНСЦЭНА

# "ХАЙ ПРАЦЯГВАЕЦЦА ГЭТАЕ СВЯТА — КІНО"

28 снежня 1995 года кінематограф будзе святкаваць сваё стагоддзе, задзьмуўшы сто свечак на святочным пірагу. Ужо далёка адышоў ад нас той вечар, калі ў Індыйскім Салоне Гран Кафэ на бульвары Капуцынаў у Парыжы браты Люм'ер пры дапамозе свайго "сінематографа" прадэманстравалі публіцы першыя фільмы "L'arroseur arrose","L'arrive d'un train en gare de la Cidat" і "La sortie du port".

Стагоддзе кіно не належыць да ліку абавязкова адзначаемых дат, але ўваходзіць у глыбіню разваг пра наш час. Сапраўды, кіно сталася адной з тых формаў мастацкага выказвання і чалавечых зносінаў, што найбольш яскрава характарызуюць нашае стагоддзе, якое набліжаецца да свайго заходу.

Мова кіно — не ўсталяваная адзін раз і назаўсёды, а жывая і чуйная да ўсіх зменнянняў — паступова ўзбагачалася ў залежнасці ад таго, што прапаноўвалі таленту артыстаў пошукі новых тэхналогій. Акрамя гэтага, мова кіно, развіваючыся, узаемадзейнічала з мовай іншых відаў мастацтва; часта гэтае перапляценне было ўдалым, і, такім чынам, кіно рабілася часам мадэллю для пошукаў выразных сродкаў у жывапісе і мастацкай літаратуры, творы кіно таксама адчуваюць на сабе пазітыўны ўплыў тых тэндэнцый, якія ўзнікаюць у іншых мастацтвах.

Асабліва Італія лічыць сваім абавязкам удзельнічаць ва ўрачыстасцях, прысвечаных гэтаму юбілею, таму што кіно мела вялікае значэнне для італьянскай нацыі на працягу нашага стагоддзя.

Па-першае, дзяржава, якая ў 1885 годзе адзначыла толькі пару дзесяцігоддзяў нацыянальнага адзінства, знайшла ў кіно дзейсную прыладу моўных зносінаў паміж такімі адрознымі абласцямі, дзе размаўлялі больш на дыялекце, чым на італьянскай мове, а таксама спосаб кансалідацыі духу і нацыянальнай культуры праз знаёмства з мясцовымі адрозненнямі, звычаямі, норавамі і каштоўнасцямі, здолеўшы пры гэтым паказаць іх як агульнае.

Па-другое, у адрозненне ад таго, што адбылося ў іншых краінах, з самага пачатку свайго з'яўлення кіно так увайшло ў жывую тканку артыстычнага і культурнага свету, што сёння немагчыма напісаць гісторыю італьянскай культуры XX стагоддзя, не разглядаючы італьянскія фільмы.

Памяркуйце самі: першым сімптомам такой сувязі быў той факт, што Д'Анунцыо яшчэ ў 1910-я гады згадзіўся падпісаць сваім імем (што і было ягоным унёскам) фільм "Кабірыя", і тое, што ў 30-я гады Пірандэла ўзяў удзел у працы над адным з першых агучаных фільмаў.

Але перш за ўсё трэба падумаць пра тое, што пасля Другой сусветнай вайны італьянскае кіно з неарэалізмам Раселіні, Дэ Сіка, Вісконці і іншых сталася сцяганосцам культуры і мастацтва Італіі, якая паступова прачыналася пасля перажытай трагедыі дыктатуры і вайны.

Такія стужкі, як "Выкрадальнікі ровараў", "Пайса", "Рым — адчынены горад", "Зямля трымціць", зрабілі вялікі ўплыў на культуру ўсяго заходняга свету, які можна параўнаць з фільмамі нямецкага экспрэсіянізму і савецкага рэалізму. Яны зрабілі ўнёсак у фармаванне, прынамсі, двух новых пакаленняў рэжысёраў першага плана ў сусветным кіно — ад Інгмара Бергмана да Фрэнсіса Форда Копалы, ад французскай "новай хвалі" да Мікіты Міхалкова, ад Марціна Скорцэ да Вудзі Алена. Як і ўсе рэвалюцыйныя рухі, неарэалізм на працягу некалькіх гадоў страціў сваю ўдарную моц. Але яшчэ раз італьянскае кіно здолела адрэагаваць нечакана, трансфармаваўшы ў камедыю элементы маралістычнай драмы: са з'яўленнем так званай "камедыі па-італьянску" з'явілася і новая манера адлюстравання рэчаіснасці, выкрывання нашых недахопаў і нашых нацыянальных хібаў.

Аднак менавіта тады пачалі з'яўляцца новыя сацыяльныя тэмы і новыя спосабы выразнасці вялікага мастацкага значэння. Усё, што з'явілася пазней, а менавіта: палітычнае кіно 70-х гадоў, а затым у 80-я гады так званае камічнае кіно, магчыма, занадта блізкія нам, каб лёгка пра іх выказваць.

Праўда і тое, што вяртанне на экраны амерыканскага кіно і адначасова з гэтым "захоп улады" тэлебачаннем прывялі нашае кіно да крызісу. І нягледзячы на гэта, італьянскае кіно працягвае заяўляць пра сябе: дзевяць "Оскараў" нададзены фільму "Апошні імператар", канскі "Пальмарэс", "Оскары" за лепшы замежны фільм. У апошнія тры-чатыры гады гэтая тэндэнцыя змянілася на нашую карысць, і ў нас сцвярджаецца новы шэраг таленавітых акцёраў і добрых рэжысёраў.

А потым зноў-ткі кіно вылучыць тэму грамадства, што развіваецца, і тэму грамадзянскіх баталіяў і пакажа італьянцам іх уласныя праблемы, а іншым народам дапаможа зразумець Італію і зробіць гэта сродкамі як драматычнага жанру, так і характэрнай камедыі па-італьянску.

Нельга не прыгадаць таксама і тое, колькі творчых асобаў з выключна ўласным почыркам, да прыкладу, Федэрыка Феліні, здолелі зрабіць пазітыўны ўплыў на сусветнае кіно, далучаючы да гэтай "туманнай гульні" фантазію мільёнаў гледачоў кожнага кантынента. Значыцца, калі кіно за гэтыя сто гадоў, такіх важных, адыграла асаблівую ролю для Італіі з яе цудоўнымі фільмамі, аўтарамі, акцёрамі, аператарамі, дык стагоддзе Кіно — гэта не толькі нагода для падвядзення мастацкага і артыстычнага, культурнага і сацыяльнага выніку, але і штуршок для таго, каб убачыць і ацаніць перспектывы ягонага развіцця ў новым тысячагоддзі, ля пачатку якога мы знаходзімся.

Сёння кіно, знітаванае на працягу многіх дзесяцігоддзяў з міфамі і асабістымі неўрозамі, піша Гісторыю з вялікай літары; яно прызнана Мастацтвам, а не проста прафесіяй ці рамяством. Яно падаравала нам мову, новыя норавы, звычаі, строі, фрызуры, паказала нам, як трэба дзейнічаць, размаўляць, кахаць.

Безумоўна, легенды больш не прыходзяць да нас з Галівуда і яго прадмесцяў, як у былыя прыгожыя ды шчаслівыя часы.

Магчыма, смерць Мэрылін і насампраўдзе азначала канец міфа?

А потым адбылося шмат падзей.

TV пачало папулярызаваць усё, што магчыма, і зрабіла фільм як бы часткаю побытавых электрапрыстасаванняў. Акрамя гэтага, прынамсі ў Італіі, гэты механізм затармазіў развіццё кіно, і рэжысёры аказаліся няздольнымі распавесці пра нашу рэчаіснасць, такую заблытаную, двухсэнсоўную, складаную... "Finita la commedia" (маецца на ўвазе камедыя па-італьянску), засталася толькі трагедыя. Гэтую тэндэнцыю інтуітыўна адчуў геній Феліні ў фільме "Голас Месяца", які заканчваецца заклікам да цішыні, заклікам, які, на жаль, гучыць як папярэджанне. Менавіта ён, Феліні, будзе "вялікім адсутным" на гэтым свяце, ён, што атаясамліваецца з усімі ўзлётамі і падзеннямі кіно.

А тым часам малы экран прапаноўваў і, больш за тое, вельмі танна прадаваў кінаспадчыну за 100 гадоў, велізарны культурны і грамадскі скарб, "гісторыю" самага пладавітага светаўяўлення, якое стварыла гісторыя мастацтва.

Здарылася так, што ў кіназалах цяпер меней гледачоў: кіно зрабілася хатнім, менш сацыяльным і менш эмацыйным. Зусім нядаўна, на XXXV кінафестывалі ў Монтэ-Карла амерыканскі рэжысёр Сіднэй Льюміт і актрыса Марына Уладзі спаборнічалі ў наскоках на TV. Але ўжо 20 гадоў таму Льюміт у сваёй працы "Network" прадвызначыў тую шкоду і каварства, якія нясе ў сабе самы моцны сродак масавай інфармацыі для тых, хто глядзіць TV, а таксама для тых, хто яго стварае.

Магчыма, гэта толькі так здаецца, але сёння паўсюль існуе нейкая тэлевізійная насычанасць, прадыктаваная не ў апошнюю чаргу агульнай шэрасцю перадач.

Магчыма, гэта толькі маё асабістае ўражанне, але сёння ў людзей зноў абудзілася жаданне разам адчуваць хваляванне, жаданне не толькі хадзіць у кіно, але і абмяркоўваць яго, размаўляць аб ім.

Кіно — гэта калектыўнае захапленне, калектыўны прагляд і індывідуальныя адказы, цёмны зал і хваляванне ва унісон, салідарнасць і кантраст псіхалагічных рэакцый. "Прыцягальная моц старой залы" ўсё ж такі застаецца, і ўсе мы, тыя, хто любіць кіно, ведаем, што кіназала — гэта незвычайнае месца. Гэта — магічнае месца, дзе мары набываюць свае абрысы. Гэта — сабор, дзе адбываецца адзін з самых цудоўных абрадаў духоўнага прычашчэння да высокага свету мастацтва. Дык хай жа пачнецца свята, не, дакладней, хай працягваецца гэтае свята — Кіно!

**Асвальда ЛЕУЦЫ,**
**аташэ па пытаннях культуры амбасады Італіі ў Рэспубліцы Беларусь**

# АРКЕСТР—МІНСКІ. НАЗВА— ЗАМЕЖНАЯ.



Нарэшце спраўдзілася: з'явіўся-такі на Беларусі аркестр, на канцэрты якога можна хадзіць без валідолу ў кішэні. Гэта "Minsk Orchestra", які арганізаваў і ўзначаліў нямецкі дырыжор Вільгельм Кайтэль.

На іх выступленнях спачатку атрымліваеш натуральны шок: з таго, што няма фальшы, што ўсе іграюць у такт, трымаючца тэмпу, характару і, нават цяжка паверыць — стылістычных асаблівасцяў той ці іншай партытуры. Потым крыху прызвычайваешся і пачынаеш нібы ўпершыню слухаць музычную тканіну ва ўсіх яе адценнях, няўлоўных градацыях гуку. А яшчэ калі яны граюць непаўторныя шэдэўры Моцарта, Баха! Боскасць, дый толькі.

Упершыню гэты калектыў (больш дакладна, яго струнную групу) можна было пачуць восенню мінулага года на аўтарскім вечары Галіны Гарэлавай. Вытанчаныя камерныя творы беларускага кампазітара, якія выконваліся іншымі артыстамі, аркестр прыгожа аправіў у дзівосную рамку з музыкі Моцарта. Здаецца, напрыканцы можна было сыграць і адну частку замест трох, каб не парушаць агульнай драматургіі вечарыны, але ж і сапраўды: калектыў гэты можна было слухаць бясконца.

Другая сустрэча, ужо з поўным складам аркестра, адбылася ў оперным тэатры, на праграме з твораў Расіні. Наступная — у Канцэртнай зале філармоніі, дзе аркестр прадэманстраваў філігранную адточанасць тэхнікі, мастацкую чуйнасць, дакладнасць інтэрпрэтацыі. І вось, нарэшце, 21 сакавіка — ізноў оперны тэатр: не толькі як сцэнічная пляцоўка і супрацоўніцтва з опернымі спевакамі, але і як зварот да опернага жанру.

У першым аддзяленні прагучала знакамітая "Служанка-пані" Дж.Пергалезі. Канцэртнае выкананне, якое было аб'яўлена, сталася хутчэй "напаўканцэртным": пры касцюмах, дэкарацыях, пазычаных з выязнога варыянту "Вяселля Фігара", але з аркестрам на сцэне і вакальнымі партыямі на пюпітрах.

Прызнацца, апошняе дапамагала мала, бо Уберта часам змаўкаў пасярод арыі — і сарамліва падхопліваў фразу недзе на сярэдзіне. А ў мяне ад болю сціскалася сэрца. Ці ж можна так ганьбіць старога? В.Чарнабаеў спяваў гэтую партыю гадоў 15 таму, калі опера ішла ў тэатры ў паўнавартасным сцэнічным увасабленні. Спяваў з непадробным артыстызмам, нават нейкім юнацкім заліхвацтвам, віртуозна перадольваючы інтанацыйна-тэхнічныя "рыфы". Дык нахай бы і застаўся ў памяці сучаснікаў цудоўнай легендай! Ёсць жа ў тэатры маладзейшыя басы — тыя ж А.Мельнікаў, А.Гардынец, якія без асаблівай цяжкасці праспявалі б партыю па нотах.



Абаяльная В.Курбацкая ў ролі Серпіны крыху згладжвала ўражанне — але выхад яе ўяўнага "жаніха" зноў парушыў стылявы баланс. У гэтай мімічнай ролі быў заняты мастак тэатра С.Гаўрыленка (ён жа значыўся і рэжысёрам канцэртнага выканання). Яго Веспонэ так зухавата выкручваўся і нават паліў з пісталета, што "застрэліў" XVIII стагоддзе канчаткова.

Пасля антракту, у якім гледачы маглі пазнаёміцца з выставай макетаў спектакляў і тэатральных касцюмаў, аркестр старанна ўваскрашаў канец XVIII — пачатак XIX стагоддзя. Гучалі Моцарт і Шуберт, між якімі столькі агульнага (нездарма музыказнаўцы гавораць пра "мацартыянства" першага аўстрыйскага рамантыка) — і столькі адрознага, індывідуальнага. Выканаўцы адчулі гэта вельмі тонка — і падарылі сваё адчуванне слухачу. Ды толькі кантрастам да іх вытанчаных стылістычных нюансаў былі спевы В.Курбацкай.

Увесь час я не стамляюся здзіўляцца інтанацыйнай нестабільнасці гэтай салісткі. Калі некалькі хвілін таму, у оперы Пергалезі, у яе не было ніякіх праблем з пападаннем у танальнасць, дык у моцартаўскіх фрагментах раптам з'явілася інтанацыйная няўпэўненасць. І, галоўнае, творы XVIII стагоддзя пеліся на манер XIX-га. Прызнацца, раней мы не звярталі ўвагі на такія "дробязі", ды вось аркестр прымусіў, паказаўшы ў класіцы — клас.

Безумоўна, нашым "опернікам" не пашкодзіла б і надалей пашыраць рэпертуар у працэсе работы з аркестрам. А аркестру — пашыраць кола вакалістаў: за кошт тых жа Л.Лют, Р.Палішчука, што бездакорна валодаюць дробнай тэхнікай, старадаўняй стылістыкай.

На "біс" гралі моцартаўскі "Дывертысмент". Мы слухалі і з замілаваннем глядзелі на знаёмыя твары лепшых музыкантаў рэспублікі, лаўрэатаў многіх конкурсаў, якія сабраны ў адзін калектыў. І з настальгіяй узгадвалі лепшыя часіны іншага аркестра — нашага Мінскага камернага, калі яго ўзначальваў Ю.Цырук. А яшчэ — сузіралі ў "Minsk Orchestra" гэтакі "пашыраны склад" вядомага ансамбля "Класік-Авангард". Не толькі таму, што яго былыя выканаўцы "мігрыравалі" ў аркестр. Абодва калектывы з'ядноўвае высокапрафесійнае стаўленне да музыкі, сапраўды сусветны ўзровень. Вось толькі грошы ў іх — розныя. Не можа наш "зайчык" спаборнічаць з дойч-маркай!

...А нашы кампазітары — з Моцартам? Я разумею ўсю рытарычнасць пытання, разумею і тое, што ў эканамічным сэнсе новаму аркестру мы не гаспадары. Да таго ж, ён арыентаваны на пэўны стылістычны пласт і яму прыдасца далёка не кожны опус, хай сабе і геніяльны. Але ўсё ж! Усім нам так хацелася б, каб у рэпертуары калектыву, што носіць назву нашай сталіцы, сярод шматлікіх замежных твораў было б і нешта беларускае. Напрыклад, "Concertino-barocco" А.Літвіноўскага, "Сумнае прынашэнне Моцарту" С.Бельцюкова, "Partita in D" В.Кузняцова. Пры жаданні можна было б і конкурс аб'явіць — на лепшы твор для "Minsk Orchestra". Можа, гэта яшчэ ў будучым?

А пакуль я з нецярплівасцю чакаю наступнага канцэрта, які адбудзецца ўжо пасля вяртання калектыву з гастроляў па Германіі.

**Надзея БУНЦЭВІЧ**

*На здымках: Вільгельм Кайтэль.*

**Фота Васіля МАЙСЯЁНКА**

ВАЙНА І МІР

# ПРА МАРКУ, ЯКАЯ ТАК І НЕ ЎБАЧЫЛА СВЕТУ

Людзі, далёкія ад філатэліі, не заўсёды ўяўляюць, з якімі цяжкасцямі і праблемамі сутыкаецца часам мастак, які праектуе эскіз звычайнай паштовай маркі. Перш чым марка з'явіцца ў паштовым акенцы, паступіць у абарачэнне, яе эскіз можа шмат разоў памяняцца. Прынамсі, так было зусім нядаўна, калі творца адчуваў ціск — і не малы — з боку савецкіх і партыйных органаў...

Хачу кораценька распавесці пра стварэнне маркі, прысвечанай 25-годдзю вызвалення Беларусі ад фашысцкіх захопнікаў. Мне добра знаёмая гэтая гісторыя, бо ведаю аўтара гэтай мініяцюры Юрыя Канстанцінавіча Левіноўскага, сам быў удзельнікам некаторых падзей, звязаных са стварэннем маркі.

Маё знаёмства з мастаком Ю.К.Левіноўскім, аўтарам шматлікіх савецкіх паштовых марак і канвертаў, у тым ліку і беларускай тэматыкі, адбылося ў 1968 годзе. Мастак прыехаў у Мінск, каб знайсці сюжэты для серыі марак, прысвечаных 50-годдзю ўтварэння БССР. На працягу некалькіх дзён мы наведвалі музеі, бібліятэкі горада, мастак знаёміўся з помнікамі і гістарычнымі месцамі Мінска, рабіў шматлікія замалёўкі. За нейкі час Юрый Канстанцінавіч зрабіў больш чым паўтара дзесятка цікавых эскізаў марак, аднак ні адзін з іх не быў зацверджаны ў ЦК КПБ.

Аўтару прыйшлося ўлічыць усе заўвагі і прэтэнзіі людзей з партыйнага дома, каб серыя да юбілею была зацверджана і трапіла ў вытворчасць. А заўвагі партыйных босаў тычыліся гістарычных сюжэтаў марак. Мастаку было запрапанавана выкарыстаць на марках да 50-годдзя БССР фрагменты помнікаў Леніну і Перамогі. Маркі, на жаль, атрымаліся невыразныя, у адным колеры, выявы на іх маленькія, цьмяныя. Але такія паштовыя знакі задавальнялі аддзел прапаганды і агітацыі ЦК КПБ!

1969 год пачаўся з актыўнай падрыхтоўкі да 25-й гадавіны вызвалення Беларусі ад фашыстаў. Далучылася да падрыхтоўкі і пошта. Наверсе вырашылі да юбілею выпусціць паштовую марку, канверт і ў дзень Свята правесці на Мінскім паштамце спецыяльнае гашэнне карэспандэнцыі юбілейным штэмпелем. Для распрацоўкі эскізаў юбілейных выпускаў зноў звярнуліся да Ю.К.Левіноўскага (пасля працы над серыяй марак да 50-годдзя БССР лічылася, што ён лепей, чым іншыя мастакі, ведае беларускую тэматыку).

Атрымаўшы заказ, мастак вырашыў, што абеліск Перамогі ў беларускай сталіцы нявартa паказваць у юбілейным выпуску — яго ўжо дастаткова, і не адзін раз, скарыстоўвалі як выяву розныя творцы. Ды і сам Левіноўскі ўжо адлюстроўваў на паштовай марцы гэты помнік. Праглядаючы замалёўкі, зробленыя падчас першай паездкі ў Мінск, мастак звярнуў увагу на помнік-танк.




У 1952 годзе ля акруговага Дома афіцэраў быў устаноўлены на пастаменце танк "Т-34" з бартавым нумарам Л-145 — помнік воінам 4-й гвардзейскай Мінскай Чырванасцяжнай ордэна Суворава II ступені танкавай брыгады 2-га Тацынскага танкавага корпуса. Таго самага, што першым уварваўся ў Мінск 3 ліпеня сорак чацвёртага.

Ні на водным паштовым выпуску — марцы, канверце, паштоўцы, штэмпелі — гэты помнік не адлюстроўваўся. Левіноўскі вырашыў змясціць яго на юбілейнай марцы і распрацаваў некалькі эскізаў. Фонам для адлюстравання помніка-танка стала карта Беларусі з нанесенай на ёй схемаю аперацыі "Баграціён". Эскізы мастак прывёз у Мінск.

Абмеркаванне ішло ў аддзеле прапаганды і агітацыі ЦК КПБ. Рэзка і катэгарычна супраць выступіў намеснік загадчыка аддзела таварыш Пуцылёў. Яго падтрымаў прадстаўнік Міністэрства сувязі БССР. Аргументы: ні на марцы, ні на штэмпелі ні ў якім разе не выкарыстоўваць танк, а — паказаць абеліск Перамогі. Пярэчанне мастака, што абеліск Перамогі ўжо быў на марках, і не раз, не мела сілы. У супрацоўнікаў аддзела прапаганды і агітацыі было сваё "особое мнение"!

Абмеркаванне закончылася нічым. Мастак заявіў, што ён мае права адмовіцца ад заказу. Часу на тое, каб запрасіць іншага аўтара, амаль не заставалася. У праўленні Беларускага рэспубліканскага таварыства філатэлістаў з нецярплівасцю чакалі вынікаў нарады і былі здзіўлены адмоўным рашэннем. На пытанне мастака, што яшчэ можна паказаць на марцы да юбілейнае даты, мы развялі рукамі: у Мінску болей помнікаў не было... І тут нехта згадаў, што на 18-м кіламетры Маскоўскае шашы, на Кургане Славы, насыпаным жыхарамі рэспублікі, узводзіцца помнік воінам-вызваліцелям, удзельнікам аперацыі "Баграціён". Успомніў і мастак: з вакна вагона, пад'язджаючы да Мінска, ён бачыў гэты помнік. Рашэнне прыйшло імгненна: яму і быць на марцы!

Мы выехалі на месца. Помнік быў яшчэ ў рыштаваннях. Мастак уважліва агледзеў ягоны макет у майстэрні. Зрабіў замалёўкі. А ў гатэлі намаляваў некалькі варыянтаў эскізаў маркі. На тым жа фоне — карце з аперацыяй "Баграціён" — быў размешчаны не помнік-танк, а манумент на Кургане Славы.

Паводле матываў малюнка будучай маркі Левіноўскі намаляваў эскізы канверта і юбілейнага паштовага штэмпеля для спецгашэння карэспандэнцыі. Усе тры будучыя паштовыя выпускі былі зніітаваны адзіным сюжэтам — манументам на Кургане Славы. Эскізы зноў праходзілі ідэйную экспертызу ў ЦК партыі. Была думка, што не завершаны яшчэ помнік (яго адкрыццё адбылося 5 ліпеня 1969 года) нявартa паказваць на паштовых выпусках (а раптам што здарыцца?). Былі іншыя перасцярогі. Але... юбілей набліжаўся, іншых варыянтаў не было, таму эскізы зацвердзілі. З умоваю, што цана маркі будзе зніжана з 6 да 4 капеек.

Ужо ў Маскве Юрый Канстанцінавіч зрабіў на малюнку некаторыя змены. Гэта бачна, калі параўнаць праект і выдадзеную марку.

3 ліпеня 1969 года юбілейная паштовая прадукцыя была на Мінскім паштамце. Праз нейкі час спадар Левіноўскі прыслаў мне эскізы дзвюх паштовых марак — эскіз з помнікам-танкам і з манументам на Кургане Славы, а таксама марку, якая ўсё ж пабачыла свет, з памятным надпісам. Хацелася б дадаць, што пазней выява манумента на Кургане Славы неаднаразова выкарыстоўвалася на паштовых выпусках, а таксама на адным з пастаянных каляндарных штэмпеляў "Горад-герой Мінск".

**Леў КОЛАСАЎ,**
**намеснік старшыні Беларускага саюза філатэлістаў.**

**P.S. Да ведама чытачоў.** Летась, на пачатку ліпеня, наша краіна адзначала 50-годдзе вызвалення ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. Такі ж юбілей святкавалі дзяржавы-суседкі — Расія і Украіна. З гэтай нагоды пошта Рэспублікі Беларусь з поштаю Расіі і Украіны ажыццявілі сумесны выпуск трох паштовых мініяцюр з адным купонам. На адной з мініяцюр — помнік на Кургане Славы...

# САЧЫНЕННЕ НА ЦЯЖКУЮ ТЭМУ

Такога цяжкага сачынення нам дагэтуль яшчэ ў ліцэі не задавалі — вайна вачыма дзіцяці. Пра што, як тут пісаць? — пакутліва думала я.

Мы, ужо трэцяе пасляваеннае пакаленне, дзякаваць Богу, не зведалі на сабе тых жудасцяў і пакутаў, якія выпалі, напрыклад, на долю маіх дзеда і бабулі. Мы не ведаем, што такое холад і голад, штодзённы, штохвілінны страх і смерць.

Гісторыкі і палітыкі амаль заўсёды знойдуць прычыны, каб растлумачыць, чаму пачынаюцца войны. А я ніяк не магу зразумець: дзеля чаго чалавек забівае чалавека? Вось і цяперашняя вайна — у Чачні. Маладзенькія салдаты, амаль мае равеснікі, ваююць і гінуць невядома за што.

Вучоныя сцвярджаюць, што ёсць войны справядлівыя і несправядлівыя. Хай не маняць! Вайна — я ўпэўнена ў гэтым — пачварная, ненатуральная з'ява. Гэта заўсёды несправядлівасць.

Помню, мне было гадоў шэсць, мы з татам пайшлі ў кінатэатр. Ішоў фільм "На западном фронте без перемен" — пра першую сусветную вайну паводле рамана Эрыха Марыі Рэмарка. Я не надта што зразумела ў тым фільме, і сёння ён прыгадваецца мне толькі па асобных эпізодах. Помню хімічную атаку — на салдат пусцілі газ. Гэта было так страшна... Ад жаху я тулілася да бацькі, на экран амаль не глядзела, адно ледзь чутна шаптала: "Татачка, баюся!"

Гэта маё першае, больш-менш свядомае ўспрыняцце вайны. Але гэта было толькі кіно. Пазней я глядзела іншыя фільмы. Уразілі стужкі "Лёс чалавека" паводле Шолахава, "А досвіткі тут ціхія..." паводле Барыса Васільева (зусім нядаўна зноўку бачыла гэты фільм, а ўздзеянне — тое ж), "Альпійская балада" паводле Васіля Быкава. Усе гэтыя фільмы настолькі хвалюючыя і пранікнёныя, што спакойна глядзець іх немагчыма.

Недзе ў трэцім класе мне надарылася прачытаць кнігу "Ніколі не забудзем". Яе напісалі дзеці вайны. Я чытала і плакала.

Калі пачалася Вялікая Айчынная, маёй бабулі было дзевяць гадоў. Іх вёску, на шчасце, не бамбілі і не спалілі. Але лепшую палову хаты, дзе жылі мая бабуля, яе сёстры і брат, бацька і маці, забраў нямецкі афіцэр і жыў там са сваім лёкаем-дзеншчыком. А сям'я тулілася на кухні, у сенцах, начавалі нават у хляве. Іх не забралі ў Германію. Нашто фашысцкаму рэжыму малалеткі — ім патрабаваліся работнікі. А вось старэйшая сястра, Ніна, хлябнула ў той Нямеччыне напоўніцу. Там, зусім маладая, страціла здароўе і пакутуе дагэтуль.

**Распавядае баба Ева:**

— Вайна ішла ад саменькага досвітку, а ў сяле ніхто нічога не ведаў: у нас жа ніякіх прыёмнікаў не было. Была якраз нядзеля. Маці зранку напякла нам аладак і паехала з татам у Пінск. Павезлі кумам перадачу — нашу хрышчонку разам з дзецьмі, мужам і старой маці адпраўлялі ў Сібір. Як раскулачаных. І нашу сям'ю вывезлі б, каб не вайна. За тое, што жылі лепей. Што мелі зямлю, кароў, коней. Гэта пры паляках. А прыйшлі Саветы — пачалося раскулачванне. Бацькаў стрыечны брат, дэпутат сельсавета, не раз казаў: "Ты ўжо, Саліва, як той кій на грушы, вісіш: вецер дуне — і ўпаў..."

У Пінск бацькі паехалі па брэсцкай дарозе, а вярнуцца дадому тым жа шляхам не змаглі. Бамбілі ваенны аэрадром. Так моцна бамбілі, што, кажуць, ніводзін наш самалёт не змог падняцца ў неба.

Прыехалі яны ўвечары, іншым, аб'язным шляхам і прывезлі горкую вестку: вайна, немец перайшоў граніцу. Усе ў сяле чулі выбухі з боку аэрадрома, але думалі, што гэта проста вучэнні...

**Распавядае баба Галя, малодшая сястра бабы Евы:**

— Мне было тады гадоў шэсць ці сем, а можа і меней — я з 1938-га. Але я добра помню, як вакол нашых будак у балоце воўк хадзіў і падушыў усіх авечак. Авечка яшчэ жывая, а кішкі валачыліся па зямлі. І цялят падушыў. А мы баяліся вылезці з той будкі. Маці пойдзе на поле (і Ева, здаецца, з ёю — яна старэйшая), бацька — на вайне, мы, малыя, сядзім у будцы з галля, над намі гудуць самалёты. І нам здаецца, што немец бачыць нашу будку. Мы не адзываемся адна да аднае, маўчым, каб ён хаця не пачуў. І галодныя, і халодныя, у брудзе, гразоце. На нас вошы панападалі, ногі абгнілі. Тыя, хто былі ў Германіі, яны цяпер — дзеці вайны, пакутнікі, льготы маюць. А мы не пакутнікі, не?!

Я добра памятаю, як суседзі з Германіі прыехалі. Надзя Раманава на возе сядзела ў прыгожай шаўковай сукні ды якая лялька была ў яе на каленях! Таксама ўся ў шоўку. Мне так хацелася дакрануцца да яе рукамі і хаця б пагладзіць. А мы ў ільняным, абадраныя, босыя. І ў прымаразкі хадзілі босыя па іней.

Ой, страшна ўсё гэтае прыгадваць — сэрца баліць.

**Распавядае баба Ева:**

— Бацька быў на вайне, а я, большая, хадзіла з мамай на работу. Дзень раблю, а нанач бягу ў будку ў лесе. Пераначавала і неяк раненька спяшаюся ў сяло, а насустрач мне — воўк. Я хлеб несла. Пеця, брат, крыкнуў: "Ева, уцякай! Гэта воўк!" А я так перапужалася — не магу ступіць з месца. Воўк блізенька-блізенька каля мяне прайшоў і не крануў.

У сяле, у хатах, немцы жылі. Коні стаялі ў хлявах. Прыгожыя былі коні. Сытыя, высокія, жоўтай і чорнай масці. А немцы гаспадарамі ходзяць па двары і глядзяць — страшней за тых ваўкоў. Мы з Лёнькам, суседам, узялі ды авечку зарэзалі — трэба ж было нешта галодным сёстрам занесці. Кавалак мяса схавала за пазуху і іду, немец пабачыў і — следам. Я злякалася — не хочацца прывесці яго да нашага будана, ён жа можа ўсіх перастраляць. Такое было. Ён, мусіць, думаў, што мяса я панясу партызанам.

Ужо і сцежка прапала, я між карчамі туляюся, а ён ідзе воддаль, вачэй з мяне не спускае. Я — бягом. Бачу, мама з карчоў паказалася. Крычу ёй, махаю рукамі, хавайся, маўляў, — немец! Яна так і ўпала ў алёс, у высокую траву, у гразоту. І я туды ж. Мяса выпала. А вакол як загаргочуць немцы! Многа іх. Адкуль толькі ўзяліся? Памлелі мы, ляжым, не дыхаем. Але яны нас не заўважылі, пайшлі запрагаць коней, што пасліся на выгане.

**Распавядае баба Галя:**

— Днём страху ад немцаў нацерпішся, а ўначы партызаны прыйдуць. Дай бялізну, дай хлеба, дай абуцца. Аддаеш апошняе. А як жа? Усё адно забяруць. Але я іх не асуджаю. Потым прыйдуць немцы, кажуць: ты партызанам памагаеш. І душаць...

**Распавядае баба Ева:**

— Зрабілі партызаны засаду ў лесе — на мадзяраў. Потым на тым месцы брат наш знайшоў гільзу і прынёс дадому. А ў нас лыжкі былі старыя, адна зусім паламалася — куцык нейкі, а не лыжка. А дзе купіш? Вось Пеця расплюшчыў гільзу і падоўжыў лыжку. Заходзяць немцы, пабачылі на стале тую няшчасную лыжку і крычаць: "Партызаны ў вас! Гільза, стралялі!" Я тлумачу: няма партызан, а гільзу я знайшла і прыбіла да лыжкі, каб есці льга было. Салдат мяне да сценкі — і ружжо наставіў. Мама галосіць, памкнулася адабраць, ён і яе да сценкі. Тут другі салдат узяў ды й адліхнуў яго. Відаць, пашкадаваў нас. А можа, сваіх дзяцей успомніў...

**Распавядае баба Галя:**

— Мы ўсё кажам, што немцы былі злыя. Былі і добрыя. Хіба ж не добры чалавек не даў застрэліць нашу маці і сястру? Добры нямецкі афіцэр пашкадаваў нас, малых, і забараніў забіраць апошнюю карову — усю вайну ў нас была карова, карміцелька наша.

**Распавядае баба Ева:**

— Афіцэр, які жыў у нашай хаце, часта ездзіў у Нявель, там лінія фронту была. Туды, дзе ён жыў, мы баяліся ступіць, ніколі гэтага не рабілі. Ды і пакой, калі ад'язджаў, ён заўсёды замыкаў на замок, а ключ браў з сабою. Буяла вясна, бэз цвіў. Божа, як я любіла гэтую пару, гэтую квецень! Любіла ставіць букеты. Аднаго разу наламала вялікі букет, бачу, акно ў немца адчыненае. Перагнулася праз падваконнік, побач стол, туды і паставіла слоік з бэзам. Пра немца не думала. Нікому я не дагаджала. Гэта была наша хата, наш стол, я хацела, каб у ёй было прыгожа, каб хораша, прыемна ў ёй пахла. І ўсё.

Вярнуўся афіцэр з лёкаем, адамкнулі хату і — ахнулі. Букет ім вельмі спадабаўся. Далі мне цукерак, бонбон называлі, такія кругленькія, як гузікі вялікія, і вялізны кавал хлеба. Хлеб белы, смачны. Мы падзялілі яго на ўсіх па крышачцы і з'елі за мілую душачку. Далі нават Лёньку суседаву і яго двум братам. У іх не было мамы, і мы іх вельмі шкадавалі.

* * *

Вось такая вайна, такая праўда ў вачах і ў памяці маёй бабулі Евы Наварай і яе сястры Галіны Рагальскай. Маленькая дробачка з іх нялёгкага жыцця. Гэтыя ўспаміны я запісала на дыктафон 27 ліпеня 1992 года — на Дзень незалежнасці Беларусі, у першую яе гадавіну.

**Надзея ТРУСАВА,**
**навучэнка Беларускага гуманітарнага ліцэя**

# АДНЫМ МУЗЕЕМ МЕНЕЙ?

Напярэдадні юбілею Перамогі музеі, рыхтуючыся прыняць шматлікіх экскурсантаў, абнаўляюць свае экспазіцыі, дапаўняюць іх новымі дакументамі і экспанатамі. Але так не паўсюль. Вось сённяшні выгляд пакоя баявой славы 21-га Віцебскага авіяпалка ў памяшканні Медыцынскага інстытута ў Віцебску...



**Аляксандр ХІТРОЎ, БЕЛІНФАРМ.**
**Фота аўтара.**

ЗАМЕСТ КРОПКІ

# У КОЖНАГА СВОЙ ШЛЯХ

Як вядома, у мастацтве разбіраюцца ўсе. Асабліва ў сучасным мастацтве. Хто толькі не вучыць мастака, як трэба маляваць: старшыні сельсаветаў, зампаліты, ідэолагі розных масцей, былыя парторгі заводаў і калгасаў. Вось толькі да апошняга часу гэтага не рабілі тэатральныя крытыкі. Таму артыкул Вячаслава Ракіцкага, спецыяліста ў галіне тэатра, нямала мяне здзівіў.

Засыпаўшы градам філіпікаў, аўтар з пафасам намаляваў мой вобраз "ханжы і невука", які рвецца "наперад з эпатажам", каб "развянціць усё святое". Персаніфіцыруючы мяне з прадстаўніком "культуры кока-колы", які "плюе ў калодзеж", ён не заўважае, што пачынае змагацца з самім жа народжанай хімерай, выносіць вердыкт уласнаму распалёнаму ўяўленню. Справа ў тым, што мы ніколі не сустракаліся са спадаром Ракіцкім, ён не мог бачыць мой маніфест да акцыі "Пранікненне", на які спасылаецца, і, што самае галоўнае, не прысутнічаў на самой акцыі, пра якую столькі напісаў. Атрымліваецца амаль што класічнае: "Я Пастэрнака не чытаў, але асуджаю..." Зыходзячы з этычнага боку, я б прапанаваў майму апаненту выявіць "невуцтва" ў любым з больш за 100 маіх артыкулах, надрукаваных толькі ў беларускіх газетах і часопісах. Не ўпершыню мне на старонках газеты дыскутаваць з людзьмі, чыя рытарычная катэгарычнасць сведчыць аб іх упэўненасці ва ўласным праве навязваць іншым свой, быццам адзіна слушны, пункт гледжання, зыходзячы пры гэтым з вышэйшых меркаванняў. Але хай прабачыць мне сп. Ракіцкі, я не стану аспрэчваць яго погляд на "шалёнае" мастацтва ці "што і на чым павінны зараз маляваць творцы ўсіх краін." Бо ён не з'яўляецца спецыялістам у гэтай справе, у адрозненне, напрыклад, ад П.Васілеўскага, рэцэнзія якога на акцыю "Пранікненне" таксама была змешчана ў тым жа нумары "Культуры", і думкі якога я падзяляю. Думаю, што, сапраўды, людзі, якія прысутнічалі на тым перформансе, як і сп. Ракіцкі, "не перажылі ні катарсісу, ні аргазму". Не перажылі па той простай прычыне, што лепей за нас гэта зробяць прафесіяналы ў другой справе, тэлефоны якіх сёння вольна друкуюцца амаль у любой газеце. Я ж асабіста падзяляю думку Мікеланджэла: "Само па сабе аголенае цела прыгожае і бязгрэшнае. Грахоўным яно становіцца тады, калі да яго прыкладваюцца грахоўныя думкі".

Што ж тычыцца залежнасці мастацтва ад нуварышаў, то я перакананы, што кабала рынку лепей кабалы таталітарызму, і хто як не нуварышы былі Медзічы, Траццякоў, Мамантаў, Гугенхейм, Людвіг і інш. Менш за ўсё мы імкнуліся на гэтай акцыі "даганяць" мастацтва Захаду, бо культ роспісу цела існаваў на гэтай зямлі яшчэ да Хрысціянства, напрыклад, у друідаў, пра што і сведчыў маніфест. Адзінай нашай мэтай была спроба адраджэння міфічных, эратычных і сакральных сувязей, якія супрацьстаўляюць згубленае адзінства чалавечай прыроды і духу дэтэрмінізму і рацыяналізму сучаснай цывілізацыі.

Ствараць артадаксальныя схемы — справа рызыкоўная. Жывое жыццё заўсёды складаней. Асабліва гэта тычыцца рэлігіі. Самае галоўнае, што ўзрушыла В.Ракіцкага, па яго прызнанні, гэта мая фраза: "Дзякуючы Богу, адбылася гэта акцыя." Сапраўды, гэта так. Я веруючы чалавек. Але ўпэўнены, уяўленні аб Богу і аб веры ў нас розняцца. Таму што царква і Бог, як вядома, рэчы розныя. Бог адзіны і недзялімы. Ён не прыйшоў сюды 1000 гадоў таму з далёкай аравійскай пустыні. Бог быў на гэтай зямлі лясоў, азёраў і балот заўсёды, і да славян. Чалавек арганічна прыйшоў да Бога, калі адчуў сэнс гарманічнага суіснавання з навакольным асяроддзем і з самім сабой.

Гвалтоўны надыход хрысціянства спыніў у нашых продкаў эмпірычную сувязь з прыродай, спыніў эратычныя культы, спыніў эвалюцыю мастацтва ўвогуле. Сёння аб гэтым нагадвае хіба што Купалле. Гэтыя галіны перасталі, як калісьці, цесна пераплятацца. Праваслаўная царква выступае супраць выкарыстання музычных інструментаў, супраць сучаснага мастацтва, адмаўляе скульптуру ўвогуле як від мастацтва. За мінулыя стагоддзі зроблена ўсё, каб ад дахрысціянскіх культаў і культуры, якія абразліва сталі называцца "паганскімі", не засталося і сляда. Што б было, напрыклад, калі б да нас не дайшло "паганскае" мастацтва старажытнай Грэцыі і Рыма? І калі б нашы мастакі дбалі толькі пра тое, што можа, а што "не можа быць у праваслаўна-каталіцкім грамадстве", як сцвярджае сп. Ракіцкі, то якое мастацтва пакінулі б мы сваім нашчадкам?

Безумоўна, сказанае вышэй не мая асабістая думка. Я толькі падзяляю думкі тых, хто шукае шлях да сваіх дахрысціянскіх каранёў, да "калодзежа з крынічнай вадой". Рух гэты ў нас не такі магутны, як, скажам, у Прыбалтыцы, але ён нарастае. І хай людзі, якія ўспрымаюць усё нязвыклае і незразумелае для сябе як прэлюдыю да апакаліпсісу, ставяць на нас кляймо сатаністаў. Гэта ўжо было. Калісьці гэтак жа лёгка ставілася кляймо "вораг народа".

У кожнага свой шлях.

**Алесь ЭРОЦІЧ**

**Ад рэдакцыі:**

**Было б дзіўна чакаць ад тэатральнага крытыка Вячаслава Ракіцкага і мастака Алеся Эроціча (Тарановіча) аднадушша ў ацэнках мастацкай акцыі "Пранікненне". Занадта розныя па характары людзі з рознымі, да таго ж, эстэтычнымі арыенцірамі. Аднак, калі выказаўся адзін, дык мае права выказацца і другі. У спрэчцы неабавязкова нараджаецца ісціна, але цывілізаваная дыскусія, безумоўна,— крок да яе.**

# "РАЗМАЛЯВАНЫЯ ЦЕЛЫ"

Экзатычная фотавыстава з такою назвай працавала ў выставачнай зале Гомельскага аддзялення Саюза мастакоў Беларусі. Яе аўтар — фотамастак з Чылі Раберта Эдвардс. Выстава ўжо экспанавалася ў Амерыцы, затым у маскоўскім Манежы, у Кіеве. І вось зараз, дзякуючы гамяльчаніну Аляксандру Снітко і яго жонцы Марыне Кімель, прыхільнікам лацінаамерыканскага мастацтва і гісторыі, прыехала ў Гомель.



У абласным цэнтры таксама знайшлося нямала прыхільнікаў гэтага незвычайнага для нас віду творчасці, карані якога сягаюць далёка ў мінулае, калі індзейцы размалёўвалі свае твары.

Вялікую работу па арганізацыі выставы ўзяла на сябе прыватная галерэя сучаснага мастацтва "Зялёны дом — арт-мадэрн" і яе гаспадыні Ларыса Габдрахманава і Зоя Пархамчук.

Выстава, безумоўна, экзатычная і ўспрымаецца неадназначна, але пачуцці яна выклікае добрыя, пакідаеш яе з адчуваннем сустрэчы з прыгожым.

*На здымку: твор з выставы "Размаляваныя целы".*

**Сяргей ХАЛАДЗІЛІН, БЕЛІНФАРМ**

# ПРЫЧЫНА СТРЭСУ — У ЧАЛАВЕКУ

У ПАСЛАННІ Апостала Паўла да Эфесцаў ёсць такія словы (4:31): "Усякая горыч, і ярасць, і гнеў, і крык, і лаянка няхай будуць аддалены ад вас — разам з усім благім." Павал піша, што такія рэчы не да твару хрысціянам. Ды нічога новага ён гэтымі словамі не адкрывае, бо любы чалавек, веруючы ён ці не, скажа, што раздражнёнасць і крык — гэта дрэнныя якасці. Між тым, ёсць яшчэ, на жаль, такія хрысціяне, ці людзі, што называюць сябе хрысціянамі, якія раздражняюцца па кожнай дробязі, якія няўстрыманыя і гняўлівыя.

Многія людзі апраўдваюць гэткія паводзіны; кажуць, што жыццё пагоршылася, растуць цэны, інфляцыя, крызіс эканомікі. Выснова робіцца такая: пагаршаецца сацыяльна-эканамічны стан грамадства — таму людзі становяцца злымі, і адсюль расце злачыннасць. Праводзіцца думка, што ўздзеянне ўмоў, у якіх жыве чалавек, і вызначае яго рэакцыю. Таму, маўляў, мы зараз так часта назіраем злосць, раздражнёнасць: едучы ў грамадскім транспарце, стоячы ў чарзе, на працы і нават дома.

Але справа ў тым, што якасці характару чалавека не заўсёды залежаць ад вонкавых абставін. Меркаванне "быццё вызначае свядомасць", вылучанае атэістамі, не адпавядае рэчаіснасці, і хто прытрымліваецца гэтага пункту погляду — не зусім добра ведае псіхалогію чалавека. Лічыць, што чалавек становіцца кепскім таму, што на яго негатыўна ўплываюць абставіны жыцця (сацыяльна-эканамічная сітуацыя), — трагічная памылка.

Пастараюся растлумачыць, што я маю на ўвазе. Па-першае, у адной і той жа сітуацыі, у залежнасці ад настрою, стану, чалавек можа паводзіць сябе па-рознаму. Па-другое, розныя людзі ў адной і той жа сітуацыі паводзяць сябе таксама па-рознаму. Хачу прывесці прыклад. Шмат хто ведае цікавага дацкага мастака-карыкатурыста Херлуфа Бідструпа (дарэчы, ён называе сябе атэістам). Херлуф Бідструп чалавек вельмі назіральны, і ў яго творчасці добра адлюстраваная псіхалогія чалавека, яго паводзіны. І ўсё гэта ўвасоблена ў арыгінальных і дасціпных вобразах. У яго шмат замалёвак з натуры і сітуацыяў, змаляваных з рэальнага жыцця.

Дык вось, сярод яго творчага скарбу ёсць адна работа, якая складаецца з чатырох малюнкаў. На кожным намалявана адна і тая ж простая сітуацыя. Чалавек сеў на лаўку, зняў капялюш і паклаў побач. Другі чалавек, падышоўшы, не заўважыў і ўсеўся на гэты капялюш, натуральна, пакамечыўшы яго і сапсаваўшы форму. На ўсіх чатырох малюнках гэта з'яўляецца агульным і нязменным пачаткам. Але вось кульмінацыя розная, бо розная рэакцыя людзей у гэтай сітуацыі.

На першым малюнку ўладар капелюша схапіў неабачлівага небараку і пачаў на яго крычаць, гэта значыць, праявіў раздражнёнасць і гнеў. На іншым малюнку гаспадар забраў свой капялюш, зірнуў на яго ды засмяяўся, ды гэтак заразліва, што і той, хто сеў на капялюш, таксама заўсміхаўся. На трэцім малюнку ўладар капелюша, убачыўшы, што сталася з яго рэчай, — заплакаў. А на астатнім малюнку ўладар увогуле не праявіў аніякіх эмоцый.

Натуральна, што мастак адлюстраваў толькі чатыры варыянты паводзінаў, але на самой справе іх магло быць і болей. Канешне, у рэальным жыцці мастак убачыць усе чатыры сітуацыі не мог — нешта ён дадаў, нешта дадумаў, нешта абагульніў. Але не ў гэтым справа. Як сапраўдны мастак, Херлуф Бідструп сродкамі свайго мастацтва вельмі проста і даходліва давёў нам тое рацыянальнае зерне, якое мы не ўбачылі на малюнку, але якое, калі так можна сказаць, глядач убачыў "між радкоў". І звышзадачы свайго асобнага твору ён дасягнуў — паказаў, што паводзіны чалавека і яго рэакцыя на вонкавае ўздзеянне не дэтэрмінаваныя, не залежаць ад знешніх абставін, а залежаць толькі ад самога чалавека.

Рэакцыя чалавека на вонкавае ўздзеянне залежыць ад яго ўнутранага стану. Чалавек, які быў раздражнёны і злы па сваім характары, — пачаў злавацца і крычаць. Чалавек, які быў добры і меў пачуццё гумару, — звёў усё на жарт і не стаў крыўдзіць іншага чалавека, які па сваёй неабачлівасці пакамечыў ягоную рэч. Слёзы трэцяга выявілі песімістычны і нязлоблівы ўнутраны свет і меланхалічны характар. А чацвёрты ўвогуле быў флегматыкам.

Такім чынам, рэакцыя чалавека на жыццёвыя здарэнні ў большасці залежыць ад унутранага стану чалавека, яго характару. І пагаршэнне матэрыяльных умоў жыцця ніколі не прыводзіць чалавека да маральнага падзення. Вось наадварот — гэта можа быць. Але маральны і культурны ўзровень чалавека не залежыць ад таго, як і чым яго кормяць і ў што апранаюць. Калі свінню карміць пірагамі, апрануць у пінжак з гальштукам і пасадзіць у крэсла кіраўніка, яна ўсё роўна ад гэтага быць свіннёй не перастане. А інтэлігентны чалавек, нават галодны і босы, заўсёды такім і застанецца, ён не стане хлусіць, красці, не апусціцца да брыдкаслоўя і п'янства.

Так што тыя людзі, у характары якіх ёсць раздражнёнасць, няўстрыманасць, гняўлівасць, калі апраўдваюцца, кажучы, што, маўляў, жыццё робіць нас такімі, — падманваюць сябе і іншых.

У Евангеллі Лукі ёсць такія словы (6:45): "Добры чалавек з добрага скарбу сэрца свайго выносіць добрае, а благі чалавек з благога скарбу сэрца свайго выносіць благое; бо ад перапоўненага сэрца гавораць вусны яго." Калі сэрца ў чалавека благое, злое, — то ён усім будзе незадаволены, заўсёды будзе раздражнёны.

Чалавек гневаецца і крычыць не таму, што яго раздражняюць, а таму, што ў яго благое, злое сэрца. І вусны такога чалавека толькі выяўляюць тое, што схавана ў ягоным сэрцы. Вазьміце два цюбікі — адзін з чорным абутковым крэмам, а другі з белаю зубною пастай. Націсніце на першы — і з яго палезе чорная маса, націсніце на другі — з яго палезе белая. З цюбіка з зубной пастай не палезе чорны крэм для абутку. Так і з людзьмі. Калі Вы наступілі на нагу ці незнарок штурхнулі чалавека, у якога злое і чорнае сэрца, — з яго нутра нічога іншага, акрамя раздражнёнасці і бруднай лаянкі не з'явіцца. Калі ж у чалавека добрая душа, то яна і праявіцца ў спагадлівым слове, ціхасці, дабрыні.

На нас, як на тыя цюбікі, штодня націскае жыццё. І тое, што з'яўляецца нашай сутнасцю, колерам нашай душы, выплескваецца на паверхню. Але гора таму чалавеку, з вуснаў якога выходзіць нешта больш чорнае ў параўнанні з колерам абутковага крэму!

У Бібліі ёсць такія словы (кніга Прыпавесцяў 14:16): "Мудры баіцца і аддаляецца ад зла, а неразумны раздражнёны і самаўпэўнены." І яшчэ (там жа 14:29): "У цярплівага чалавека шмат розуму, а раздражнёны выказвае глупства." А ў кнізе Іова (5:2) запісана: "Так, неразумнага забівае гняўлівасць, і неразважнага губіць раздражнёнасць." Менавіта так, раздражнёны чалавек стварае праблемы на пустым месцы, заўсёды апынаецца ў стрэсавых сітуацыях, і ў выніку гэтага руйнуе сваё здароўе. Але каб толькі сваё, яшчэ колькіх іншых людзей, якія вакол яго!

Чалавек, у сэрцы якога жыве запальчывасць і раздражнёнасць, — патэнцыйны генератар канфліктаў. А калі ў нас у грамадстве такіх людзей — 80%?

Пэўна, самая вялікая група злачынстваў — побытавыя. Сямейныя сваркі, скандалы. Пачынаецца ўсё з маленькай раздражнёнасці. А калі супрацьстаячыя бакі — абодва патэнцыйныя генератары канфліктаў? Вынікі бываюць трагічнымі.

Але самая вялікая трагедыя чалавека ў тым, што ён разумее: раздражнёнасць і гняўлівасць - гэта зло; але стаць лепшым, вызваліцца ад гэтага грахоўнага цяжару чалавеку вельмі складана. Таму што "... ўсякі, хто грашыць, ёсць нявольнік грэху." (Евангелле Яна 8:34).

Ніколі не позна абаперціся на сябе і свае сілы. Толькі ж у большасці сваёй мы будзем нагадваць казачнага барона Мюнхгаўзена, які спрабаваў выцягнуць сябе з балота за чупрыну. Але ў рэальным жыцці ўсё іначай. Мы працягваем вінаваціць ва ўсіх грахах сваіх вонкавыя абставіны, забываючыся на тое, што прычына стрэсу — у самім сабе. Чакаючы павагі і любові ад іншых, неабходна асабіста вызваліць сэрца ад злосці, раздражнёнасці. Хіба не праўда ў тым, што першакрыніца здароўя фізічнага — здароўе духоўнае?

**Андрусь ДЫЛЮК**

КУЛЬТУРА

ШТОТЫДНЁВАЯ ГРАМАДСКА — АСВЕТНІЦКАЯ ГАЗЕТА
выдаецца з кастрычніка 1991года

Заснавальнік — Міністэрства культуры і друку Рэспублікі Беларусь

Галоўны рэдактар — Алег КАМІНСКІ

Нам.галоўнага рэдактара — Людміла КРУШЫНСКАЯ

Рэдкалегія:
А. ВАНІЦКІ, В. ГЕДРОЙЦ, У. ГІЛЕП, Н. ЗАГОРСКАЯ, С. ЗАКОННІКАЎ, В. ІПАТАВА, А. КУДРАВЕЦ, М. КУПАВА, В. РАКІЦКІ, В. СКВАРЦОЎ, А. ТРУСАЎ, В. ТУРАЎ, В. ШАРАНГОВІЧ

Адказны сакратар — Пётра ВАСІЛЕЎСКІ
Мастацкі рэдактар — Наталля ОВАД
Кампутарная вёрстка — Андрэй ВАШКЕВІЧ
Карэктар — Мая КЛІМКОВІЧ

Адрас рэдакцыі:
220029, МІНСК (МЕНСК),
вул. ЧЫЧЭРЫНА, 1.
Тэлефон: 76-94-66

Рукапісы аб'ёмам больш за адзін аўтарскі аркуш не прымаюцца.
Аўтарскія рукапісы не рэцэнзуюцца і не вяртаюцца.
Меркаванні аўтара могуць не адпавядаць пункту гледжання рэдакцыі.
Аўтары нясуць адказнасць за дакладнасць матэрыялаў.



Фармат А3.

Індэкс 63875
Агульны наклад 6500
Замова 988
Друкарня выдавецтва «Беларускі Дом Друку».

М. 1, 2, 3, 4, 5, 6, 7, 8, 9, 10, 11, 12.

Д. 1, 2, 3, 4, 5, 6, 7, 8, 9, 10, 11, 12.